

Каталіцкія святы ➔5

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Беларускія абрады ➔8

http://niva.iig.pl

redakcja@niva.iig.pl

№ 51 (2953) Год LVII | Беласток, 16 снежня 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Юрка КАЛІНА:



# нашыя людзі ненайгоршыя

**Ніва: — У размове з нашай рэдакцыяй у лістападзе 2004 года Ты сказаў, што праца на тэлебачанні дае Табе вялікае задавальненне. Восем гадоў пазней надалей яшчэ адчуваеш такія ж пазітыўныя эмоцыі?**

Юрка Каліна: — Гаворачы шчыра, самім тэтебачаннем як установай я крыху стомлены. Гэта не абазначае, што я гультай, ці не хачу працаваць. Проста ўсе палітычна-фінансавыя закалоты вакол гэтага ведамства не настройваюць пазітыўна. Таксама факт, што некалькі апошніх гадоў прыйшлося мне займацца ў большай ступені адміністрацыйна-рэдактарскімі абавязкамі, тут не без значэння. Аднак самым галоўным з'яўляецца тое, што магу надалей рабіць для мяне важныя справы. Значыць, займацца дакументальным кіно.

**— Твой фільм «Архімандрыт», які быў завершаны і прадстаўлены гледачам у гэтым годзе, на працягу апошніх месяцаў атрымаў сем важных узнагарод на кінафестывалях у Расеі, Беларусі, Украіне, Славакіі. А Ты асабіста стаў у гэтым годзе лаўрэатам самай прэстыжнай польскай журналісцка-рэпарцёрскай узнагароды «Залаты Мельхіёр» у намінацыі «Інспірацыя года». Тады чарговыя прэміі неўзабаве?**

— Праца над гэтым фільмам заняла мне тры гады. Калі канчатковы прадукт атрымаўся станоўчым, трэба было яму зрабіць прафесійную прамоцыю і распаўсюд на міжнародных конкурсах. Тут я дамовіўся са сваім сынам Міхалам, якому веданне інтэрнэту і англійскай мовы дапамагло ў пошуках цікавых і важных кінафестываляў ва ўсім свеце. Сказаў я сыну: «Ты шукай, а калі будзе нейкая фінансавая ўзнагарода, то атрымаеш ад яе сваю дзесяціпрацэнтную долю. Шанц, што нешта атрымаеш, напэўна большы, чымсьці выйграш у спортлато». Прапанова беднаму студэнту прыйшла да спадобы і... адправіў ён маё кіно прыблізна на пяцьдзесят фестываляў у розных кропках свету. Былі падрыхтаваны чатыры моўныя версіі — польская, беларуская, англійская і расейская. Найбольш экзатычнае месца, куды фільм прынялі — гэта конкурс тэлебачання Аль-Джазіра ў Аб'яднаных Арабскіх Эміратах. Вялікае зацікаўленне стужкай наглядаецца ў краінах Усходняй Еўропы. Крыху аднак сумна, што фільму не прынялі на дзяржаўны кінафестываль «Лістапад» у Мінску толькі з-за таго, што яговым заказчыкам з'яўляецца тэлеканал «Белсат».

**— А як да ўсіх гэтых узнагарод ставіцца сам герой — архімандрыт Гаўрыіл? Ці падарожнічае ён з Табою на міжнародныя фестывалі?**

— Падарожжы за мяжу, на жаль, разам не адбыліся. Архімандрыт Гаўрыіл усе сілы прыкладае, каб займацца скітам у Адрынках. І няшмат у яго свабоднага часу. Тут таксама і фінансавыя пытанні, бо на многія фестывальныя паездкі расходы на дарогу, гасцініцы, харчаванне трэба плаціць самому. Наведваю архімандрыта раз на некалькі тыдняў і тады завожу яму копіі атрыманых дыпломаў. Архімандрыт вельмі цешыцца таму, што інфармацыя аб праваслаўных беларусах Беласточчыны пашыраецца па ўсім свеце. Маю ціхую надзею, што пры скіце можа калісьці ўзнікне маленькі беларускі этнаграфічны музейчык, у якім было б месца і на дыпломы, атрыманыя за гэтую кінастужку.

**— Што падштурхнула Цябе, каб гэтым кіно ізноў вярнуцца з такой сур'ёзнасцю і дакладнасцю да нашай, падляшскай беларускасці і яе духоўнасці?**

— Найважнейшы тут мой маральны імператыў. Я не шукаю і не патрабую сенсацыі. Сваю працу на тэлебачанні распачаў я з дакументальных рэпартажаў пра нас, беларусаў Беласточчыны. Потым прыйшло захапленне самой Беларуссю і яе праблемамі з пункту гледжання нацыянальнай дзяржавы. Тут таксама з'явіліся і клопаты. Цяжка было нешта там зрабіць, бо апынуўся я на некалькі гадоў у ліку неўязных у Рэспубліку Беларусь. У канцы канцоў быў я стомлены гэтай усёй палітыкай. Мінаў час буры і націску. Пачаў глыбей задумвацца над сабою і нашым лёсам. Мы ўсе патрабуем пазітыўных прыкладаў чалавецтва. Калі фільм «Архімандрыт» пабачыла шырокая публіка, атрымаў я шмат тэлефанаванняў, э-мейлаў ад знаёмых і незнаёмых, якія пасля пабачанага заяўлялі мне з гонарам, што нашы людзі ненайгоршыя. Згадаю толькі, што тут, на Беласточчыне, дзе прэзентавалася гэтая кінастужка, усюды было поўна людзей. У Беластоку на двух сеансах было 800 чалавек. Публіка не падвяла таксама ў Гайнаўцы, Саколцы і іншых мясцовасцях. Зараз маем запрашэнні ў Міхалова, Гарадок, Дубіны, Бельск-Падляшскі, усюды цяжка пасцець. У прыходзе маёй цешчы ў Чорнай-Беластоцкай існуе своеасаблівы фан-клуб гэтага фільма. Людзі цікавяцца, на якіх фестывалях яго прэзентуюць, што пра яго пішуць у СМІ. Героевы дух дабра натхняе.

**— Але пакуль Твая фільмавая сцежка перасяклася з архімандрытам Гаўрыілам, Ты сваю духоўнасць узбагачаў кантактамі і фільмамі пра шматлікія рэлігійныя і шматканфесійныя пытанні?**

— Мяне вельмі цікавяць рэлігійныя супольнасці. Прыцягвае мяне ў гэтых людзях сіла і веліч іх веры. І тое, што яны здольны для яе рабіць. Можа нават я ім і зайздрошчу такой сілы. Прыглядаўся я стараверам у Беларусі, каталіцкім манахам камільянам у Грузіі, пратэстанцкай царкве «Новае жыццё» ў Мінску. Раней супольна з Анной Радзюкевіч падрыхтавалі мы цыкл фільмаў пра праваслаўныя манастыры ў Польшчы, да якіх матэрыялы здымаліся ў Літве, Беларусі, Украіне, Славакіі, Чэхіі, Грэцыі. Гэтая ўся дасведчанасць і веды дазволілі мне прыняць рашэнне, каб паспрабаваць зрабіць кіно пра архімандрыта — манаха як чалавека, але не святога.

**— І як запамяталася Табе першая рэакцыя архімандрыта Гаўрыіла на пабачанае?**

— Калі закончыў мантаж фільма, мне трэба было яго паказаць архімандрыту, каб атрымаць ягонае блаславенства. За вячэрай, згатаванай жонкай у нашым доме, мы глядзелі эфекты працы. Пасля пяці хвілін я пабачыў, што архімандрыт Гаўрыіл узрушыўся, у яго вачах закружыліся слёзы. Пасля пабачанага не было заўваг. Не было патрэбы змяняць хаця б хвіліну фільма. Архімандрыту не перашкаджалі сцэны, якія іншым маглі б не падабацца.

**— А менавіта якія былі тады водгукі людзей моцна звязаных з праваслаўем?**

— Прыемна мяне ўразіў мітрапаліт Сава, які ў час сёлетніх перадвелікодных святаў пабываўшы з візітам на Беластоцкім тэлебачанні і пабачыўшы мяне на калідоры, адазваўся наступным чынам: «Думаеш, што я не бачыў фільма? Даўно мне яго прынеслі. Я не ведаў, што ты такі выдатны рэжысёр». Адзін з дырыжораў прафесійнага праваслаўнага хору меў заўвагі да харыстаў з Супраслі, якія ехалі са мною на Украіну і ў мікраааўтобусе нячыста заспявалі нейкую музычную партыю і пытаўся, чаму тады я не падклаў гэтага выканання з кампакта. Айцу Кастусю Бандаруку хацелася б больш бачыць духоўных і містычных сцэн. Паслу Яўгену Чыквіну занадта было пчол і пчолак, але майму швагру айцу Паўлу Лапінскаму з Пухлаў, дзе захаваўся народнапрыродны абрад абыходу палёў, на якім пабываў і архімандрыт, у фільме вельмі падабалася перш за ўсё быццё і жыццё героя ў згодзе з натурай. Генеральна можна сказаць — колькі людзей, столькі водгукаў.

**— А ці ў час апошніх фестывальных пабывак у Расеі і Украіне Ты заўважыў, што ёсць там разуменне таго, што ў Польшчы, на Беласточчыне пражываюць і ўсхваляюць Бога праваслаўныя беларусы?**

— З гэтым бывае па-рознаму. На Украіне ў час размоў духоўныя і свецкія станоўча ацанілі і тое, што мой герой гэта беларус і размаўляе ён на сваёй роднай мове. У Кіеве я меў вельмі цікавую гісторыю. Падышла да мяне адна рэжысёрка з Масквы, якая распавяла, што ейныя дзяды выехалі ў бежанства дзесьці з Заходняй Беларусі і туды ўжо не вярнуліся. Але ўвесь час успаміналі і распавядалі пра свет вясковых царковак, абрадаў, прыроды. На маё пытанне як ейнае радавое прозвішча, яна адказала што Галёнка. Мне пацяплела на сэрцы і я сказаў ёй, што такое прозвішча вельмі характэрнае для ваколіц Ягаднік, Істока, Пасечнік-Вялікіх, што на Гайнаўшчыне і, магчыма, нашыя продкі маглі быць нават сваякамі. Што да Расеі і Масквы — мы тут для іх поўная нацыянальная экзотыка. Пасля візіту патрыярха Кірылы ў Польшчу з'явілася больш інфармацыі пра нас як праваслаўных. Але, хто вернікі па нацыянальнасці і што да чаго — гэта поўная нязведаная зямля. Мой фільм адкрывае там для іх, у Расеі, новыя, адметныя часткі падляшскага праваслаўна-беларускага свету.

**— Такім натуральным чынам стаў Ты амбасадарам Падляшша ў свеце. Ці маршалкоўская і ваяводская управы, а можа сам Беласток, які ўвесь час трубяць пра шматкультурнасць рэгіёна і горада — заўважылі гэта і запрасілі Цябе або Твой фільм на свае прамацыйныя паездкі, хаця б у Брусель?**

— Не, ніхто да гэтага пакуль не дадумаўся. А можа проста нікому не хочацца паказваць нашай духоўна-нацыянальнай нармальнасці. А ў самым Бруселі, дарэчы, ёсць вялікая калонія выхадцаў з Падляшша, у тым ліку і бізнесоўцаў, якія напэўна прыйшлі б паглядзець кіно, а пасля пабачанага можа і падумалі б, каб і свае грошы ізноў укласці ў падляшскую гаспадарку. Не ўспамінаю пра брусельскіх бюракратаў і дыпламатаў. Тое ж самае ёсць і ў іншых месцах свету. Фільм цікавіць і карэнных англічан, і немцаў, і прадстаўнікоў іншых народаў. Але не мне пра гэта думаць. Я раблю проста тое, што сам люблю, але прыносіць гэта адначасна задавальненне і рэфлексію многім людзям.

**— Дзякую за размову.**

**Размаўляў Яўген ВАПА**

*„Архімандрыт”, час 52 мінуты, рэжысёр Юры Каліна, здымкі Раман Васілюк, гук Анджэй Бранські, музыка Марэк Папай, мантаж Томаш Януліс, кіраўнік прадукцы Барташ Барыкаў, Тэлецэнтр Беласток для „Белсат ТВ” 2012.*



# Пераломны год

2012 год падышоў да свайго завяршэння. У цывілізаваным свеце жыхары рыхтуюцца да каляднага распродажу, калі кошты на некаторыя тавары зніжаюцца больш чым напалову. Беларусь да такіх краін не належыць. Перад святамі ў Беларусі кошты чарговы раз нагадваюць яе грамадзянам, што ім няма чаго цешыцца са сваёй мадэлі эканамічнага цуду. Гэтая цалкам супрацьлеглая ад усёй астатняй Еўропы сітуацыя нібыта падказвае, што пара нешта мяняць. Але беларусам пакуль не да змен. Яны ўжо падрыхтаваліся рвануць на калядны распродаж у суседнія краіны, дзе з-за іх масавай наведвальнасці мясцовым жыхарам будзе не працінуцца да здабыткаў свайго эканамічнага і палітычнага выбару.

Чаму так сталася? Дваццаць гадоў таму менавіта ад нас валаклі, прыкладам, у суседнюю Польшчу ўсё, што з'яўлялася на паліцах беларускіх універмагаў. Тады, акурат Беларусь і Эстонія лічыліся самымі перспектыўнымі краінамі ў мажлівасцях эканамічнага развіцця, чым усе памежныя суседзі і з захаду, і з усходу. Ды вось Эстонія зараз ужо гатовая ўступіць у зону еўра, бо яе эканоміка адпавядае ўсім нормам Еўрасаюза, а беларусы будуць душыць адзін другога ў памежных чэргах, брудна лаючыся на суайчыннікаў агіднымі расейскімі мацюкамі.

Можа ўсё сталася так таму, што эстонцы, вырваўшыся з палону СССР, пачалі адразу будаваць сваю незалежную краіну. На першае месца паставілі нацыянальныя і духоўныя каштоўнасці, а да роднай мовы паставіліся так, як і трэба ставіцца да роднага. У нас жа прарасейская марыянетачная наменклатура, якая збольшага засталася пры ўладзе і працягвала служыць Крамлю, няспынна старалася пераконваць грамадскасць, што напачатку трэба «спраўвай займацца», а ад таго, што пачнём гаварыць па-беларуску, каўбасы больш не стане.

І вось зараз рускамоўныя беларусы стараюцца набыць каўбасу ў Польшчы. Не перашкодзіла палякам родная мова выrабляць больш танную прадукцыю. А ў Беларусі палітыка русіфікацыі працягваецца і далей. Ёй ужо больш за трыста год. І год 2012 не стаў выключэннем. У гэтым аспекце ён стаў кумулятыўным. І калі ў Расійскай імперыі ці ў Савецкім Саюзе русіфікацыю праводзілі чужакі, то зараз Рэспубліка Беларусь незалежная дзяржава. Дык чаму ў беларускай краіне выходзяць інструкцыі пра недапушчэнне гвалтоўнай беларусізацыі? Чаму пераварочваецца з ног на галаву гісторыя, якую падтасоўваюць да расійскіх версій? Чаму за выкарыстанне нацыянальнай сімволікі, якую ўзнялі ў гонар паўстанцаў палеглых за Бацькаўшчыну, як гэта сталася ў Свіслачы, ужо другі месяц суды Гарадзеншчыны караюць патрыётаў сваёй Радзімы? І чаму краіну з назвай Беларусь не могуць наведаць патрыёты беларускасці з замежжа?

Яскравым прыкладам антыбеларускай палітыкі стала чарговая адмова ва ўязной візе старшыню Беларускага саюза ў Польшчы Яўгену Вапу, які свой жыццёвы шлях прысвяціў адраджэнню беларускасці. Бо ці могуць чыноўнікі хоць якой яшчэ іншай краіны так зняважыць сябе і ідэі, якім мусяць служыць, каб адрачыся ад тых, хто жыве гэтымі ідэямі.

Не могуць наведаць сваю этнічную радзіму і іншыя патрыёты. А тыя, што працуюць на ніве беларускага адраджэння ў самой Беларусі, знаходзяцца пад пільным наглядам крамлёўскіх двухгаловых арлоў. А некаторыя, як патрыёт-адраджэнец Алесь Бяляцкі, увогуле за кратамі.

Але разам з тым год 2012 можна назваць і пераломным годам. Беларуская мова, якой нідзе па-сапраўднаму не вучаць, пачала становіцца мовай эліты. І гэта ўжо не проста спадзяванні. Беларуская моладзь масава стала карыстацца ёй у сацыяльных сетках, сцвярджаючы, што гаварыць па-беларуску трэба не для таго, каб вылучацца з шэрай масы, а для таго, каб пакінуць яе. Беларуская мова ўжо стала мовай, па якой патрыёты Беларусі пазнаюць сваіх на вуліцах. Беларуская мова ідзе ў наступны 2013 год як мова, якой не зракліся дзеці. І кожны чарговы год яе прыхільнікаў будзе ўсё больш. Час, гэтым разам, на яе баку. А самая беларуская мова надоўга перажыве ўсіх, хто так стараўся яе знішчыць.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Функцыянеры абедзвюх краін...

Без функцыянераў, значыць, стаража дзяржавы, не можа абысціся ніякая ўлада. Справа ў тым, каб было іх столькі, колькі трэба. Нарыклад, у Польшчы іх удвая больш чым у Беларусі. Ці гэта многа, ці мала? Вулічныя дракі, якія перавальваюцца праз польскія вуліцы, рост дзейнасці нацыяналістычных вандалаў і растучы паказчык паспалітых злачынстваў можа схіліць да думкі, што іх замала. Ці павінны мы пайсці шляхам Беларусі, дзе на кожныя 100 тысяч жыхароў прыпадае 1500 функцыянераў, значыць, у пяць раз больш чым у Польшчы? На думку грамадзян, будучых у жаху ад уявы паліцыйнай дзяржавы, якіх можа адкідваць беларускі прыклад, быў бы гэта непрымальны варыянт. Я поўнасцю згодны з імі. Усё ж, лічу, што не трэба дэманізаваць Беларусі. Папраўдзе папракаецца беларускую дзяржаву ў дыктатарскім ладзе і празмерным апараце прыгнёту, дык аднак паводле стандартаў прынятых у Еўропе, лік функцыянераў не ёсць там значна вышэйшы, чым у дэмакратычнай Польшчы. Дастаткова паглядзець статыстыку. Калі ў Польшчы, у чатыры разы большай па дэмаграфіі ад усходняй суседкі, а ў адну трэць большую ад яе па тэрыторыі, прыпадае 0,0026 функцыянера на гектар краіны, ды ў Беларусі няшмат больш, бо 0,0034. Значыць гэта, што ў кожнай з гэтых краін існуюць неабмежаваныя прасторы свабодныя ад кантролю органаў улады. Інакш гаварыўшы, на аднаго статыстычнага функцыянера прыпадае каля трох гектараў дзяржавы. Ну, не дасца ж такой прасторы ўпільнаваць статыстычнаму функцыянеру! Значыць, калі грамадзянін марыць аб неабмежаванай свабодзе, павінен рэалізаваць яе на той частцы дзяржаўнага гектара, якой, сілай статыстыкі, абстрактная доля 0,0026 ці 0,0034 функцянера не ў змозе кантраляваць. На жаль, так як і ў Польшчы, так і ў Беларусі, грамадзяне ўперліся таўпіцца ў гарадах. Ідучы за логікай статку грамадзян, якія тым шчаслівейшыя чым больш сціснутыя, дзяржава дапіхвае да іх шматлікія атрады функцыянераў адказных за разгрузку грамадскага сціску. Найчасцей прымяняюць яны метад жорсткага расцярушвання, што для грамадзян з'яўляецца дастатковай прычынай для таго, каб яшчэ больш ушчыльніцца. У выніку таго наступае празмернае трэнне грамадзян аднаго аб аднаго, што ў выніку дае сацыяльныя іскры, якія ў сваю чаргу прыцягваюць функцыянераў як начных матылёў да палаючай свечкі. У выніку дае ўсё тое другаснае трэнне, у гэты раз грамадзян аб функцыянераў, ці мо наадварот, што робіць з гэтай супольнасці сціску і прыгнёту найшчаслівейшых людзей. Функцыянеры маюць на воку грамадзян, а грамадзяне функцыянераў. Калі грамадзяне занадта прэцца ўверх, функцыянеры дацісакаюць іх уніз; калі тыя другія пачынаюць размахваць дубінкамі, тыя першыя абкідваюць іх камянямі. І так усё ўтрымліваецца ў ідэальнай раўнавазе; ды ўсё гэта да часу! Толькі што ўжо гэта іншая гісторыя.

Функцыянераў раздзяляем на бачных, значыць, у форме, і зусім нябачных, значыць сакрэтных. Не трэба доўга чухацца па галаве, каб дайсці да слушнай высновы, што чым больш бачных функцыянераў, тым больш яны бачныя. А чым яны больш бачныя, тым грамадзяне больш дысцыплінаваныя. У Польшчы, дзе ліквідуюцца чарговыя пастарункі паліцыі і затым функцыянерныя штаты, бачныя функцыянеры, значыць, форменныя, сталі зусім нябачнымі. Мабыць улады дайшлі да вываду, што грамадзяне дайшлі да такога ўзроўню грамадзянскай спеласці, што ў змозе абысціся без функцыянераў; або пачнуць яны выконваць ролю задно грамадзян, як і функцыянераў. Ідэя недурная, ды цяжка мне ўявіць злодзея, які, зрабіўшы злачынства, сам сябе арыштуе і стане сваім сторажам. Ручаюся, што злачынца адразу скарумпуе функцыянера і суддзю, а стоража падмане. Але ж згода будуе. Пойдуць тады яны ўсе як адзін на гарэлку, а надосвітку ўзломяцца ў манапольку, каб падлячыць пахмелле. Польскія ўлады ігнаруюць магчымасць такой разбэшчанасці і метадычна паменшваюць лік функцыянераў, пераканаsuccessныя, што бяспека грамадзян залежыць ад іх саміх. Які гэта дасць вынік, пабачым. Іншы метад будавання грамадскай бяспекі прынялі ў Беларусі. Ручаюся, што зусім адваротны. Ды аб гэтым — іншым разам.

**Мірaслаў ГРЫКА**

---

**Вачыма еўрапейца**

# Чаканы дакумент



У мінскім Нацыянальным музеі мастацтва 19 лістапада была падпісана „Праграма культурнага супрацоўніцтва на 2012-2014 гады”. Подпісы пад дакументам паставілі: з польскага боку — пасол у Беларусі Лешак Шарэпка, з беларускага — віцэ-міністр культуры Тадэвуш Стружэцкі. Два дні пасля гэтай падзеі я спрабаваў здабыць змест дакумента з Міністэрства культуры ў Варшаве. Там мяне адправілі ў МЗС, якое — як мне сказалі ў дэпартаменце замежнага супрацоўніцтва — мела быць у першую чаргу ўпаўнаважанае да яго публічнага распаўсюджвання. Невядома чаму, нават для працаўніц прэс-цэнтра МЗС, мае стаpанні ў адпаведным дэпартаменце гэтага ведамства працягваліся два тыдні (амаль штодзённыя напаміны па тэлефоне пасля накіравання э-мейлам просьбы). Неймавернае гэта, бо ж прасіў я толькі падаць мне змест дакумента, які стаў пасля яго падпісання агульным здабыткам. Так ці інакш, на канец я дачакаўся і спяшаю данесці вам, да чаго дачытаўся. Ужо ў другім артыкуле гучыць гарантыя, што „Беларускі бок сарганізуе Дні культуры РБ у РП у 2012 г. (там напісана, што ў 2012 годзе — М. Х.). Умовы арганізацыі гэтага мерапрыемства будуць узгоднены зацікаўленымі ўстановамі шляхам рабочых кантактаў”. Задзівіла мяне дата. Пазваніў я Эдуарду Швайко, цяперашняму дырэктару Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве, які ўдзельнічаў у падрыхтоўцы гэтага дакумента ў час працы нядаўна адхіленага ад пасады міністра культуры Паўла Латушкі (стаў ён паслом у Францыі). Тлумачыў, што гэта выразная памылка і гаворка аб 2012 або 2014 годзе (да выбару беларускім бокам), а пададзеная дата прымалася пад увагу калі працавалі над ім у 2011 г. Няма каментароў.

Тры пункты чарговага артыкула трактуюць аб двухбаковай „падтрымцы рэкамендавання твораў літаратурных, драматычных і музычных ды з абсягу візуальных мастацтваў польскіх і беларускіх аўтараў, з асаблівай увагай твораў сучасных аўтараў” і „падтрымцы ўключэння польскіх і беларускіх драматычных і музычных аўтараў у рэпертуар культурных установаў другога Боку”. Тут таксама гучыць гарантаванне супрацоўніцтва „з мэтай распаўсюджвання творчасці Станіслава Манюшкі”. Далей м.ін. пералічваецца спісак міжнародных фестываляў, якія абодва ведамствы намерваюцца асабліва падтрымліваць (па пяць у абедзвюх краінах). У Польшчы на асаблівае трактаванне могуць разлічваць „Гайнаўскія Дні царкоўнай музыкі”, тэатральныя фестывалі „Sąsiedzi” ў Любліне і „Demoludy” ў Ольштыне ды Варшаўскі міжнародны фільмавы фестываль і Кракаўскі фільмавы фестываль. Як відаць, такога высокага рангу не заслужылі ні адзін фестываль, які адбываецца ў Беластоку, хаця б такія, як знакамітыя Фестываль царкоўнай музыкі ці Фестываль беларускай песні.

Чарговыя артыкулы датычаць „дэкларацыі падтрымкі” для разнастайных форм дзейнасці ў паасобных галінах: кінематографе, тэатры, музыцы і танцы (тут паказана на падтрымку супольных праектаў Вялікага тэатра — Нацыянальнай оперы ў Варшаве і Вялікага тэатра оперы і балета ў Мінску), бібліятэках, захаванні помнікаў, кіраванні культурнай спадчынай і музеях, мастацкіх школах. Прадбачана падтрымка Беларусі для беларускіх творцаў і мастакоў у рамках стыпендыякай праграмы польскага ведамства культуры „Gaude Polonia” (паўгадовыя стажыроўкі ў Польшчы). Думаю, што важным з'яўляецца артыкул 15: „Бакі будуць спрыяць увекавечванню выдатных асоб і гістарычных падзей, звязаных з польскай культурнай спадчынай на тэрыторыі РБ ды беларускай культурнай спадчынай на тэрыторыі РП”.

Важны гэта дакумент і культурнымі асяроддзямі абедзвюх краін чаканы. Можна спадзявацца, што схочуць ім пакарыстацца таксама і беластоцкія культурныя ўстановы ды тутэйшыя творцы. Варта спяшацца, бо ў артыкуле завяршаючым дакумент запісана, што ў любы момант адным з бакоў можа ён быць дэнансаваны.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Усход — інтэлігентная спецыялізацыя



Злева: Дарыюш Багускі, Марцін Носаль,Олаф Осіца, Яраслаў Дважанскі, Алег Латышонак

■ Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

**„Самаўрадавая дыпламатыя — усходні маштаб" — пад такім лозунгам у будынку Падляшскай оперы і філармоніі — Еўрапейскага цэнтра мастацтва — палітыкі, самаўрадаўцы, прадстаўнікі ўстаноў ды няўрадавых арганізацый, якія займаюцца культурай, а таксама прадстаўнікі бізнесу размаўлялі аб магчымасці стварэння дакумента, які быў бы ў наступным годзе далучаны да шматгадовай стратэгіі развіцця Падляшскага ваяводства, а вызначаў бы падляшскую спецыялізацыю, якой быў бы напрамак на Усход, асабліва на Беларусь у як найшырэйшым маштабе.**

Канферэнцыю сарганізавалі — з ініцыятывы Міністэрства замежных спраў — Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства і Фонд „Суседзі без межаў", які ачольвае Дарыюш Багускі, на пачатку васьмідзесятых дзеяч Незалежнага аб'яднання студэнтаў, арганізатар падпольных друкарняў, пасля дэпутат першага склікання Сейма. Адкрываючы дэбату сказаў ён:

— Мы хацелі б гэтую стратэгію самаўрадавай дыпламатыі распрацаваць так, каб стала яна ў будучым годзе афіцыйным дакументам, які прыме пад увагу ўсе магчымыя ініцыятывы, дасць падставу для функцыянавання разнародным грамадскім ініцыятывам ды прынясе карысць гораду. Сітуацыя, калі аб гэтых справах (супрацоўніцтве з Усходам — М. Х.) размаўляем у Вроцлаве, Любліне ці, вядома, у Варшаве, а не ў Беластоку — непрымальная. Гэта стратэгічны інтарэс Беластока. Штодзённа перад беластоцкімі супермаркетамі стаяць тысячы аўтамашын з беларускай рэгістрацыяй, а мы гэта толькі фіксуем у статыстыках консульства і Памежнай аховы. Хочам, каб тое супрацоўніцтва знайшло рамкі заадно ў стратэгіі ваяводства, як і самога Беластока.

Спецыяльным госцем быў экс-маршалак Сейма, цяпер старшыня сеймавай камісіі замежных спраў Гжэгаж Схетына. Прыехаў ён на запрашэнне падляшскага дэпутата Роберта Тышкевіча, намесніка старшыні гэтай камісіі і кіраўніка парламенцкай групы па справах Беларусі, які пераконваў, спасылаючыся на лозунг канферэнцыі:

— Патрабуем новага пагляду, з усім еўрапейскім вопытам і досведам польскай усходняй палітыкі ды нашым падляшскім досведам. У паўсюдным успрыманні Усходу, з аднаго боку маем дачыненне з міфам, з другога — з расчараваннем. Усход гэта не нагоды для таго, каб наладзіць залатыя інтарэсы. Гэта цяжкі, патрабавальны партнёр. Варта сабраць і прааналізаваць, якія актыўнасці прыносяць рэзультат ва ўсходнім маштабе. Патрабуем тут інстытуцыяналізацыі і доўгатэрміновага планавання. МЗС мае планы падтрымкі рэгіёнаў у гэтай актыўнасці. Трэба задумацца, як адбудаваць існуючую інфраструктуру кантактаў з усходнімі партнёрамі на ўзроўні памежных гмін і паветаў.

На думку дэпутата Тышкевіча, найважнымі прасторамі супрацоўніцтва з Усходам з'яўляюцца эканоміка (тут успомню аб грузавым транспарце), мадэль замежных інвестыцый (здабыванне сыравіны для вытворчасці на Усходзе, а выконванне мытнага кантролю на тэрыторыі ЕС) і развіццё малых і сярэдніх прадпрыемстваў:

— Культура? Тут ёсць добра. У абшары навукі патрэбныя трансгранічныя праграмы.

Адным з дыскутантаў быў гісторык, навуковы супрацоўнік Універсітэта ў Беластоку Алег Латышонак. Распавядаў аб страчаных шанцах і перспектывах польска-беларускіх адносін. Аналізуючы польска-беларускія адносіны першай паловы дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя, спаслаўся м.інш.:

— Адзінае, да чаго дайшлі на працягу апошніх дваццаці гадоў, гэта ўстанаўленне Польшчы ў пазіцыі першага ворага беларускай дзяржавы, атаясамліванай беларускім кіраўніком са сваёй асобай і пазбаўленне такім чынам якіх-небудзь інструментаў уплыву на палітыку Беларусі. Калі ўвогуле быў за гэтыя гады нейкі нявыкарыстаны шанц, дык гэта шанц пабудавання ў Беластоку і шырэй, на Падляшшы, беларускага цэнтра, які выпраменьваўся б на Беларусь.

— Наогул, ажыўленне Беластока як цэнтра беларускай культуры цяпер ужо немагчымае без канцэнтрацыі тут людзей навукі і мастацтва ды моладзі з Беларусі.

У сваю чаргу дыскутант Марцін Носаль з усходняга дэпартамента МЗС пераконваў:

— У пытаннях г.зв. дапаможнага супрацоўніцтва інстытуцыяналізацыя наступае. Шляхам рэалізацыі праграмы Усходняга партнёрства ўдалося больш перанесці палітыку суседства з паўднёвага напрамку.

Паінфармаваў, што ў 2013 г. з бюджэту МЗС на дзеянні самаўрадаў і няўрадавых арганізацый накіраваныя на супрацоўніцтва з краінамі Усходняга партнёрства мае быць прызначаных 14 мільёнаў зл. (у Беларусь — толькі 1 мільён зл.):

— Урадавыя і самаўрадавыя ўстановы мусяць быць вельмі асцярожнымі, паколькі ў Беларусі абавязваюць рэстрыкцыйныя прынцыпы датычныя грошай звонку. Падставай з'яўляецца развіццё міжчалавечых адносін. Гэта вядзе да перамен у ментальнасці, каб Еўрасаюз не ўспрымаўся як вораг.

> ***— Адзінае, да чаго дайшлі на працягу апошніх дваццаці гадоў, гэта ўстанаўленне Польшчы ў пазіцыі першага ворага беларускай дзяржавы, атаясамліванай беларускім кіраўніком са сваёй асобай і пазбаўленне такім чынам якіх-небудзь інструментаў уплыву на палітыку Беларусі. Калі ўвогуле быў за гэтыя гады нейкі нявыкарыстаны шанц, дык гэта шанц пабудавання ў Беластоку і шырэй, на Падляшшы, беларускага цэнтра, які выпраменьваўся б на Беларусь.***

Аб будучыні:

— Перспектывы польска-беларускіх адносін, мякка кажучы, няясныя. Ніякае з магчымых рашэнняў не гарантуе поспехаў. У спосаб для мяне відавочны не мае найменшага сэнсу падтрымліванне г.зв. дэмакратычнай апазіцыі, заганяючай людзей на псеўдавыбары, якія, дарэчы, збайкатавалі звычайныя грамадзяне. Адзіным палітычным лагерам, здольным яшчэ змабілізаваць у Беларусі які-небудзь патэнцыял супраціву палітыцы рэжыму, з'яўляецца нацыянальна-незалежніцкі лагер. Досвед вучыць мяне, што ўблытаная ў еўрапейскую палітыку палітычнай карэктнасці Польшча не ў змозе падтрымаць такі лагер.

І далей:

— Любое супрацоўніцтва паміж Польшчай і Беларуссю натыкаецца на дзве сур'ёзныя перашкоды. Першай з іх з'яўляецца здабыццё польскай візы беларускім партнёрам, што бывае вельмі цяжкім. Другая перашкода гэта боязь беларускіх чыноўнікаў перад супрацоўніцтвам з польскім бокам у перыяд палітычнай нестабільнасці. У сувязі з вышэйсказаным, не забываючы аб шырэйшым польска-беларускім маштабе супрацоўніцтва, надалей варта інвеставаць у мясцовы беларускі патэнцыял.

На думку Алега Латышонка, у цяперашняй сітуацыі найбольш можна зрабіць у галіне культуры і неабходная тут інстытуцыяналізацыя польска-беларускага супрацоўніцтва. Патрэбны ў Беластоку м.інш. асяродак „будучы сапраўдным цэнтрам культурнага абмену паміж Польшчай і Беларуссю" ды скандэнтраванне ў беластоцкіх вучэльнях беларускай моладзі, якая вучыцца ў цяперашні ў іншых польскіх вышэйшых навучальных установах:

Дыскутант Олаф Осіца з Цэнтра ўсходніх даследаванняў адзначыў:

— Самаўрадавы маштаб дыпламатыі важны, таму што самаўрад вылаўлівае розныя справы хутчэй чым, напрыклад, Брусель. Сёння маем дачыненне з крызісам еўрапейскай сілы. У вашай стратэгіі трэба знайсці месца паміж тым, што рэгіянальнае, айчыннае і еўрасаюзнае. Гэта мусіць быць указальнік для канкурэнтных дзеянняў. Трэба аб тым памятаць, што еўрасаюзная палітыка ў значнай ступені сектарная. Не заўсёды трэба супрацоўнічаць пры дапамозе МЗС, які прыдае супрацоўніцтву палітычную афарбоўку. На Усходзе ў цяперашні час відаць адміранне дамовы паміж грамадствам і ўладай, не толькі ў Беларусі. І туды брыдзе сусветны эканамічны крызіс. Трэба падрыхтавацца, апрацоўваючы стратэгію на думку: „Што, калі..".

Гжэгаж Схетына, пры нейкім здзіўленні некаторых удзельнікаў канферэнцыі, спаслаўся на досвед Ніжняй Сілезіі з якой ён родам, датычны шматгадовага супрацоўніцтва з Чэхіяй ці Саксоніяй, што ніяк не перакладваецца на ідэю падляшскай стратэгіі і дакумента аб супрацоўніцтве Падляшша з усходнімі суседзямі ў цяперашняй сітуацыі, а асабліва ў кантэксце Усходняга партнёрства. Адзначыў, аднак, таксама:

— З аднаго боку мы з'яўляемся пачаткам Захаду для Усходу, а з другога — амбасадарам усходніх спраў у ЕС. Мне здаецца, што робім гэта добра. Вядома, можна хацець, каб гэта было больш чутнае, канкрэтнае, прыносіўшае поспех.

Прызнаўся, што — як гэта назваў — не да канца ўдалося паказаць у час прэзідэнцтва Польшчы ў ЕС у мінулым годзе, што Польшча і іншыя еўрасаюзныя краіны адкрытыя на Усход:

— Таксама крызіс паўплываў на тое, што не было часу на такія размовы аб стратэгіі. Захад не хацеў дадаваць да гэтых турбот яшчэ ўсходніх спраў і праблем з імі звязаных (...). Адкрыццё на Усход, паказванне праблем Усходу, краін прэтэндуючых да аб'яднанай Еўропы і дапамога ў іх вырашанні, і пашырэнне ўвогуле ЕС, павінны іманентна лучыцца з сабою. Польшча павінна быць той краінай, якая ўвесь час гаворыць, што Еўропа адкрытая. Еўропа салідарная, але слухаючая тых, якія хадайнічаюць перад ёю (...). Усе адносіны паміж ЕС і краінамі Усходу, Польшчай і краінамі Усходу, вельмі розныя і гэта ўплывае на тое, што ў спосаб больш адкрыты мусім працаваць над гэтымі адносінамі, сістэматычна слухаючы адказаў, якія паяўляюцца з другога боку. Няма тут раз назаўжды вызначанай стратэгіі, якую трэба рэалізаваць.

Заадно Гжэгаж Схетына, як і дэпутат Роберт Тышкевіч не выслухалі галасоў, якія прагучалі ў час дэбаты. Іх удзел у канферэнцыі, зараз пасля выступлення на ёй старшыні Схетыны, незвычайна ў такіх сітуацыях перапыніла прэс-канферэнцыя, пасля якой у канферэнц-залу яны ўжо не вярнуліся. Журналістам у вестыбюлі оперы дэпутат Тышкевіч сказаў:

— Гэтая канферэнцыя пачынае працу ад падрыхтоўкі стратэгіі Падляшскага ваяводства, датычнай трансгранічнага супрацоўніцтва з Усходам. Гэта неабходнае для таго, каб тое, што завецца самаўрадавай дыпламатыяй наконт усіх дзеянняў, накіраваных на Усход, было больш паспяховае і эфектыўнае і каб мы мелі нейкага роду каардынацыю рознай актыўнасці, дзеянняў, якія на Падляшшы ідуць ва ўсходнім напрамку, але якія сёння маюць выпадковы характар. Патрабуем сабраць і апісаць гэты патэнцыял і ўвесці яго ў пастаянныя практыкі дзеянняў нашага рэгіёна. Маем амбіцыю, каб у будучым годзе ўзнік комплексны і доўгатэрміновы дакумент, які стане часткай стратэгіі Падляшскага ваяводства, ягонай інтэлігентнай спецыялізацыяй. Хочам, каб была гэта кааліцыя няўрадавых арганізацый і Маршалкоўскай управы.

Гжэгаж Схетына:

— Падляшскія ўлады ў гэтых адносінах не будуць пакінутыя аднымі. Змогуць разлічваць на дапамогу і МЗС, і Міністэрства рэгіянальнага развіцця. Трэба быць гатовым для прымання супольных выклікаў. Сітуацыя хутка мяняецца. Беларусы ёсць і будуць нашым партнёрам. Трэба зрабіць усё, каб тут на Падляшшы не было муру, каб тая мяжа з Усходам не раздзяляла так, як раздзяляе. Мы прытым надалей паслядоўныя ў адносінах да цяжкай сітуацыі ў Мінску, праваапарушэнняў, і мусім з гэтым змагацца. Брама на Усход гэта вялікі выклік для бізнесу і прадпрымальніцтва. Трэба пераконваць, асабліва ў вялікіх канцэрнах, што тут, на Падляшшы, размяшчанне інвестыцый, стварэнне новых працоўных месц з'яўляецца шанцам экспансіі на Усход.

Чаго Гжэгаж Схетына, Роберт Тышкевіч не пачулі на ўласныя вушы? Між іншым Цэзары Цеслюкоўскага, падляшскага віцэ-маршалка:

— Рэальныя дзеянні МЗС наконт краін УП зводзяцца да рэалізацыі адзінкавых праектаў, адарваных ад сябе. Маем хаос. Можа гэтыя праекты папраўляюць уплывы польскіх пасло ў гэтых краінах, але для таго, што там сапраўды важнае, мае гэта невялікае значэнне. Культурнае супрацоўніцтва найхутчэй перакладзецца на змену іміджу Еўропы. На жаль, Еўрапейская камісія ў гэтай галіне абмяжоўваецца да супрацоўніцтва на ўзроўні міністраў культуры. ЕК не дае адкрытага поля, каб гэта змяніць.

Таксама выказванні Войцеха Вінагродзкага з Польскага згуртавання работадаўцаў выклікалі немалое рознагалоссе:

— Стратэгія Падляшскага ваяводства павінна быць перш за ўсё эканамічнай стратэгіяй. Культура важная, ды гэта не культурныя дзеянні генеруюць эканамічны струмень. Культура канчаецца часта толькі супольным спяваннем песенек. Адчуваю вялікі недахоп інфармацыі аб гаспадарчай геаграфіі Падляшша. Партнёры з Усходу не займаюць першага месца ў гаспадарчым абмене падляшскіх прадпрыемстваў (невядома адкуль такія

працяг ☞11

## Кляшчэлеўскія пенсіянеры

Гуртак пенсіянераў і інвалідаў у Кляшчэлях налічвае 150 членаў. Працай кіруе праўленне з шасці асоб, якое ўзначальвае Надзея Мароз. Намеснікам старшыні з'яўляецца Яўгенія Рошчанка, а членамі Ян Леанкевіч, Уладзімір Маркевіч, Марыя Вапа і Ірэна Манцюк. Сацыяльна-бытавымі справамі займаецца камісія ў складзе Людміла Ваўрыновіч і Марыя Ляшчынская.

Кляшчэлеўскія пенсіянеры актыўна ўдзельнічаюць у грамадскім жыцці гміны. Супрацоўнічаюць яны з мясцовым самаўрадам. У доказ гэтаму Гарадскі цэнтр культуры, спорту і адпачынку супольна з Гарадской радай арганізуе штогод Дзень сеніёра. У гэтым годзе мерапрыемства праходзіла 10 лістапада. Удзельнічала больш за сорак асоб. Гасцей прывітаў дырэктар Гарадскога цэнтра культуры Лявон Алексяюк. Затым узяла голас бурмістр Ірэна Негярэвіч, якая падзялілася цікавейшымі навінкамі з жыцця гміны. Расказала аб сёлетніх інвестыцыях і пра выкарыстанне салэцкага фонду, які ў асноўным прызначаўся на абсталяванне вясковых святліц і пабудову дашкоў на прыпынках у Рэпчычах і Курашаве. У заканчэнні падзякавала яна сеніёрам за належкае супрацоўніцтва, а чатыром актыўным удзельніцам — Барбары Шымчак, Марыі Вапа, Надзеі Мароз і Яўгеніі Рошчанка — за працу ў карысць лакальнай грамадскасці ўручыла ганаровыя граматы. У мастацкай частцы выступіла „Каліна" з Дашоў са сцэнкай „Бацькоўскае благаславенне". Затым удзельнікі сустрэчы заселі да застолля. Арганізатары падрыхтавалі вельмі смачны пачастунак. Да танца падыгрываў варшаўскі гурт „Оксідэ", які, нотабена, выводзіцца... з Сухавольцаў. Калі ціхла музыка, пачыналіся песні. Кляшчэлеўскія сеніёры правялі вечар у вясёлай, дружнай кампаніі. Арганізатарам за гэта належыцца шчырае дзякуй!

**Уладзімір СІДАРУК**

## Актыўны гурток ПСН

11 жніўня г.г. адбылася сяброўская сустрэча невідучых і са слабым бачаннем у святліцы Польскага саюза невідучых (ПСН) у Беластоку, па вуліцы Белай. Прыйшлі і прехалі 30 асоб з Беластока, Васількава, Саколкі і Саўлян. Праўленне гарадскога гуртка ПСН падрыхтавала пачастунак. Былі бігас, кілбаскі і кашанка, а таксама піва, кава і гарбата.

Мужчын было няшмат і яны карысталіся асаблівай увагай жанчын. Удзельнікі мерапрыемства шмат ведалі пра сябе. У іх пастаянная сувязь і не толькі па тэлефоне. Здаравейшыя члены ПСН памагаюць сябрам, якія зусім не бачаць. Жанчыны сябрам робяць пакупкі, дамаўляюцца на абмен лішкамі гародніны і пладоў са сваіх агародчыкаў.

Зараз члены ПСН ладзяць экскурсію ў Кельцы і па тамашнім наваколлі. Расказвалі пра свае пабыўкі ў санаторыях. Усе былі рады імі, а найбольш адпачынкам у Яраслаўцы, Цехацінку і ва Устроні-Морскім. Панавала прыемная, цёплая атмасфера. Сустрэча працягнулася за тры гадзіны. Час так хутка праляцеў! Такія мерапрыемствы ў святліцы па вуліцы Белай адбываюцца кожны месяц.

Варта дадаць, што члены праўлення гарадскога гуртка ПСН цікавяцца жыццём-быццём невідучых і дапамагаюць ім па меры сваіх магчымасцей і пры ўдзеле іншых устаноў. **(яц)**

Агата АРЛЯНСКАЯ

# Наш госпіс прарока Іллі




**— Распусціце, калі ласка, гэтую вестку сярод сяброў, — просіць доктар Павел Грабоўскі, старшыня Падляшскага анкалагічнага госпісу ў Новай Волі Міхалоўскай гміны, пераможца прэстыжнага агульнапольскага конкурсу „Грамадскі дзеяч года", сарганізаванага тыднёвікам „Newsweek Polska". — Без вас шанцы на тое, каб мы пеpажылі, драматычна малеюць. Калі мы мелі 4-6 падапечных (хворых пры канцы жыцця ў сваіх дамах), неяк давалі мы сабе рады. Ды цяпер, калі гэтых асоб маем амаль два дзесяткі, а чарговыя чакаюць, каб іх прынялі, нялёгка нам без пастаяннага фінансавання. Я вылічыў, што апека над адным хворым за месяц каштуе каля тысячы злотых. Думаем таксама аб акцыі „усынаві хворага" ўстановамі або больш заможнымі прыватнымі асобамі. Патрэбная ўсялякая дапамога, таму што мусім утрымацца як грамадскі госпіс, насуперак таму, што чыноўнікам Нацыянальнага фонду здароўя „ўсё згодна ў паперах" — а жыццё і статыстыкі паказваюць што іншае, што ў рэальнасці ёсць зусім інакш. „Дзякуючы" НФЗ мусім даваць сабе рады самі, таму арганізуем, збіраем ахвяраванні....**

— Грамадскі дзеяч гэта для мяне хтосьці больш, чым асоба, якая дзейнічае для іншых. Гэта таксама асоба якая дзейнічае з іншымі, асоба, якая ўключае іншых да дзеяння, запальвае іх, матывіруе, стварыць групу, нейкую грамадскасць, якая будзе разам дзейнічаць. Я яшчэ вучуся добра гаспадарыць гэтай добрай энергіяй, гэтым запалам, каб нам хапіла яго надоўга, — падвёў сваю перамогу ў конкурсе „Грамадскі дзеяч года" (да якой было заяўлена 150 асоб з усёй Польшчы). — Наш госпіс дзейнічае з праваслаўным прыходам Нараджэння Іаана Хрысціцеля ў Новай Волі, а намеснікам старшыні фонду з'яўляецца яго настаяцель а. Яраслаў Шчэрбач.

Фонд мае сядзібу ў Новай Волі. Там, у будынку па былой школе, які Міхалоўская гміна спачатку передала праваслаўнаму прыходу, а ён аддаў фонду ў карыстанне на трыццаць гадоў, рашылі заснаваць сядзібу фонду і госпіс. Спачатку меркавалі, што ўзнікне там стацыянар. Аказалася, што на стацыянарны госпіс патрэбныя велічэзныя сродкі, за якія можна было б выбудаваць асобнае крыло будынка, на новым фундаменце, з новымі мурамі, інсталяцыямі. Мы не ў змозе гэтага зрабіць. Дасканалай задумай было заснаванне майстар-класаў па працоўнай тэрапіі. Трыццаць асоб знайшло тут месца, дзе яны — прыгожыя, творчыя людзі — вучацца розных рэчаў, ездзяць на конкурсы, на якіх вельмі часта бяруць прызы, а 14 асоб знайшло ў нас занятак на майстар-класах. Перамагла задума хатняга госпісу.

— Я пазнаў гэты рэгіён, дзе вельмі моцныя сямейныя сувязі, дзе людзі не хочуць, каб іхныя блізкія былі па-за домам. І ўзнікла думка, што запэўнім апеку ў іх дамах, дзе да хворага будзе даязджаць лекар, медсястра, дзе будзе рэабілітант у выпадку патрэбы, псіхолаг, апека духоўнай асобы, — бо так разумеем пакуту, бо гэта не толькі сам боль, і сам лекар з таблеткамі не ўзмозе тут памагчы. Паліятыўная апека гэта не толькі медычныя ўмеласці, ды і шырока разуметая духоўнасць, — кажа доктар Павел Грабоўскі. — Узніклі мы з канцом 2009 года. Управа і рада фонду: Павел Грабоўскі, Яраслаў Шчэрбач, Малгажата Паўлючук, Марцін Віснеўскі, Моніка Цыдзік, Анатоль Панасюк. Мэта фонду: усе дзеянні дзеля годнага жыцця ў хваробе і годнага паміpання, арганізаванне і надзялянне комплекснай апекі, між іншым медыцынскай, духоўнай, псіхалагічай, сацыяльнай дарослым асобам у тэрмінальнай стадыі хваробы, асабліва ракавай, ды невылечна хворым у дамах. Надзяленне дапамогі сем'ям і абучанне іх выконванню апекі над хворым у зыходнай стадыі хваробы, дома і ў госпісе, падтрымка асірочаным сем'ям і хворым, адукацыя лакальнай грамадскасці, хворых і іх сем'яў, навучанне ідэі госпіснай апекі і пашаны для жыцця. У мінулым годзе восенню рушылі майстар-класы. Увесь час прымерваліся мы да заснавання госпісу, думалі, што ўдасца закантрактаваць паслугі ў Нацыянальным фондзе здароўя, ды не ўдалося. У той час, калі мы чакалі і размаўлялі, памерла каля пяці чакаючых асоб. І мы ва ўправе рашылі, што не будзем чакаць, ці нас хтосьці будзе дафінансоўваць, ці не. Што маем у сабе настолькі сілы і ўпартасці, што рушым без контракта. І з хатнім госпісам рушылі ад 1 чэрвеня.

— Займаемся хворымі, утрымліваемся з дароў ад спонсараў. Мы — арганізацыя грамадскай карысці і ўплывае нам 1 працэнт ад падаткаў за год ад нашых прыхільнікаў. Каб перадаць 1 працэнт ад свайго падатку на госпіс у Новай Волі, трэба ўпісаць: *KRS 0000328837 Hospicjum w Nowej Woli*. Спадзяемся не страціць гэта статусу на наступны год. Пакуль ахвотна бачым акцыйных валанцёраў. Пасля будзем абучаць прафесійна тых, хто будзе хадзіць да хворых. Апекай госпіс ахапляе Міхалоўскую, Гарадоцкую, Нарваўскую, Нараўчанскую і Заблудаўскую гміны. Хто можа карыстацца майстар-класамі? Кожны, хто кончыў 16 гадоў і мае вызначаны ўзровень інваліднасці. Штодзённа ўдзельнічаюць у майстар-класах 30 чалавек, якія прывозяцца і развозяцца бусікам для перавозу інвалідаў, атрыманым у дары з Нямеччыны.

— Памагаем трыццаці асобам з абмежаваннямі. У шасці майстэрнях праводзяцца кулінарныя, кравецкія, мастацкія і рукадзельныя заняткі. Нашы падапечныя прыбіраюць агарод, самі рыхтуюць стравы. Такія асобы вучацца як спраўляцца ў жыцці, як афармляць розныя справы. Дзякуючы гэтаму адчуваюць сябе патрэбнымі ў грамадстве, — тлумачыць бацюшка Яраслаў.

— Магчымасці і сілы маем на больш. На жаль, не хапіла гэтага, каб Нацыянальны фонд здароўя падпісаў дамову з нашым госпісам. Два разы на тыдзень хворых наведваюць нашы медсёстры, а два разы ў месяц — лекары, — кажа каардынатарка дзейнасці госпісу Магда Юрчук. — Падтрымліваюць нас сем'і, спонсары і іншыя цудоўныя людзі. Без іх дапамогі цяжка нам было б утрымаць госпіс. Лякарствы, перавязачныя матэрыялы, медычнае абсталяванне — усё ж каштуе.

— Мы, як хатні госпіс, падтрымліваем не толькі тых, што адыходзяць, але і іх сем'і. Мне асабіста марыцца тут цэнтр паліятыўнай апекі, але гэта песня далёкай будучыні, — прызнаецца доктар Павел Грабоўскі. — Чаму НФЗ адкінуў прапанову нававольскага госпісу? У мінулагоднім конкурсе падалі мы прапановы ў НФЗ у двух абсягах: хатняга госпісу і амбулаторыі паліятыўнай медыцыны. Абедзве прапановы былі адкінуты, паколькі не выконвалі мінімальных патрабаванняў наконт прылад і абсталявання. Конкурс выйгралі былі іншыя асяродкі з сядзібамі ў Беластоку, а іхнія прапановы вычарпалі ўсю суму, прызначаную на такую апеку. Падпісаныя дамовы абавязваюць да 2014 года.

Госпіс прарока Іллі быў пасвячаны 10 кастрычніка 2012 г. 25 студзеня 2013 г. адбудзецца ў Міхалове ў „Гасподзе Міхалова" дабрачынны баль. Увесь прыбытак ад балю мае падтрымаць дзейнасць хатняга госпісу. Запісацца на мерапрыемства можна па адрасе **wtz.nowawola@o2.pl** або па тэлефоне 856672306, 691947404 (а. Яраслаў Шчэрбач і Магда Юрчук). Кошт ад аднае асобы — 90 злотых, узнос трэба пералічыць на рахунак 52 8060 0004 0551 0139 2000 0010, з прыпіскай „Bal Charytatywny". Свой уклад (нават найменшы) дзеля падтрымкі фонду і госпісу можна ўплачваць на той жа рахунак: Fundacja Podlaskie Hospicjum Onkologiczne, Bank Spółdzielczy w Białymstoku, Oddział w Michałowie, з прыпіскай „на дзейнасць хатняга госпісу".

# Каляда ў беларусаў-католікаў



Ксёндз Ян Пахадойч

■ Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ

**Каляды, а перш за ўсё Вігілія таго свята, называная беларусамі-католікамі таксама Вілеяй, была самым важным часам, багатым у абрады, якія мелі гарантаваць поспех у гаспадарцы і прыватным жыцці чалавека.**

Ксёндз Ян Пахадойч, які сам родам з Высокага, што ў гміне Карыцін, прыгадвае таксама важны перадсвяточны перыяд посту ў католікаў — адвент. Людзі на працягу чатырох тыдняў перад Калядамі ўдзельнічаюць у нядзельных імшах, званых раратамі, якія як ніколі пачынаюцца ўжо а сёмай гадзіне. Не цяжка сабе ўявіць, што ў гэтую пару года мароз і цемрадзь не спрыяюць ранним прагулкам.

— Добра памятаю тамтыя ранкі. Даўней рараты пачыналіся а шостай гадзіне! — успамінае ксёндз Ян Пахадойч. — А яшчэ трэба было раней прайсці шэсць кіламетраў дарогі з Высокага да найбліжэйшага касцёла. Чалавек змерзлы, стомлены і яшчэ ў касцёле трэба было стаяць. Але гэта застаецца ў памяці. Чатыры рараты, чатыры нядзелі ў тым ліку і чатыры шпацыры настройвалі чалавека.

Удзел у раратах лічыўся ў каталікоўбеларусаў, можна сказаць, абавязкам. Найлепш было не прапускаць ніводнай раратняй імшы.

Калі ўжо надышоў дзень 24 снежня, таксама не было лёгка. Гэтаму дню спадарожнічалі розныя забароны і наказы, каб будучы год быў ураджайны і багаты ў плады зямлі. Пачынаючы ад самага ранку добра было падняцца з пасцелі рана, каб без праблем уставаць штодзённа цэлы наступны год. Гэтага спосабу да сёння трымаецца Язэп Шубзда са Старой Хадароўкі. У яго словах: „Як перажывеш Вілею, такі будзе цэлы наступны год” заключаецца самае асноўнае ўспрыманне таго магічнага часу, які мог заважыць на цэлым будучым лёсе чалавека. У Вілею абавязваў строгі пост.

— Можна было з’есці толькі адзін раз, — кажа Ядвіга Хоцей з Юрашоў. — Не аб’ядаліся, толькі чакалі вячэры.

Аднак ужо яе муж Вацлаў выхаваны быў у хаце, дзе не елі цэлы дзень. Не шукаючы далёка, у Старой Хадароўцы Язэп Шубзда згадвае, што яшчэ яго дзядзька Ізыдар Клімойч не еў і не піў аж да вячэры, казаў што „сушыць”. Наступствам таго было тое, што Ізыдар ужо ад шаснаццатай гадзіны, не чакаючы першай зоркі, паганяў усіх, каб сядаць да вілейнага стала.

Беларусы-католікі ёлку традыцыйна прыносілі ў дзень Вілеі. Найчасцей з блізкага лесу ці то свайго, ці чужога. Аднак варта прыгадаць, што зімой мужчыны на вёсках часта працавалі пры высечцы дрэў у лесе і добра ведалі, якую елку можна ўзяць дахаты, а якую нельга было чапаць.

— Як густа растуць, вядома, трэба адну выразаць, — прызнаецца Язэп Шубзда. — Няма ў тым ніводнага злачынства, толькі карысць для чалавека і лесу.

Такую ёлку прыбіралі разнавіднымі, уласна зробленымі цацкамі. У хаце Марыі Максімовіч, якая родам з Ракавіч, вешалі яблыкі і цукеркі, якіх таксама не заўсёды ўдавалася дастаць.

— Крыху пяклі сваіх сухароў у выглядзе чалавека, — згадвае Марыя Максімовіч. — Круцілі цеста цераз мясарубку і фармавалі галаву, рукі і ногі. Такое пірожнае вешалі. Заўсёды то цікавей на ёлцы.

На ёлку таксама ставілі свечкі, якія, як успамінае Маня Кажухоўская з Бабpоўнік, нярэдка гарэлі разам з самой ёлкай. Апрача таго часта рабілі разнавідныя цацкі з саломы, якімі ўпрыгожвалі святочнае дрэўка. Лілька Шорц помніць, што найхутчэй з ёлкі знікалі салодкія цукеркі і яблыкі, таму, каб дрэўца не засталося зусім голым, цацак з саломы і каляровай паперы рабілі найбольш.

Дня Вілеі чакала таксама не адна дзяўчына, якая ў той час магла прадказаць свой лёс. Марыю Максімовіч, хаця было многа абавязкаў з падрыхтоўкай вячэры, маці выпраўляла на двор, каб паслухала, з якога боку забрэша сабака. Паводле вераванняў, з таго боку меў прыйсці будучы муж.

— Трэба было таксама дзяўчатам абдымаць плот рукамі, — успамінае Марыя Максімовіч. — Калі абдымеш парную лічбу астраколаў, тады ў гэтым годзе пойдзеш замуж, а калі абдымеш няпарную лічбу, тады не чакай вяселля!

Калі ўжо дзяўчына ведала, з якога боку трэба чакаць мужа, вярталася дахаты, каб завяршыць неабходныя работы. А работы было шмат. Амаль усе беларусы-католікі згадваюць лічбу дванаццаць як лічбу страў, якія мусілі апынуцца на святочнай вячэры. Тарэса Алізаровіч са Слойкі адзначыла, што да гэтых дванаццаці страў улічваліся таксама вада, кампот з сушаных фруктаў і хлеб.

— Самая першая была куцця, — падказаў без запінкі Вацлаў з Юрашоў.

— У нас варылі панцак. З ячменю яго рабілі, так на густа, — успамінае Лілька Шорц. — Пазней мак малолі, круцілі яшчэ ў верцесе, салодзілі мёдам і гэта была куцця.

Калі ўжо гаворка ідзе пра мак, варта згадаць, што дадавалі яго да разнавідных страў. Напрыклад, Маня Кабылінская з Бабpоўнік на Вілею рыхтавала посныя пончыкі без малака і яек, затое з макам усярэдзіне. Ламаньцы, з макам зразумела, ведаюць таксама ва ўсёй Сакольшчыне. Быў гэта від сухароў, якія рабілі з мукі і вады. На канец да цеста дадавалі мак. Ламаньцы сваю назву ўзялі ад крохкасці, з-за якой сухары хутка ламаліся. З макам пяклі яшчэ булачкі і пірагі, а нават, як успамінае Лілька Шорц, дадавалі яго таксама да лазанак і так узнікала чаргова вілейная страва.

— Помню як з братам памагалі маці ў падрыхтоўцы да свята, — успамінае ксёндз Пахадойч. — Мы найбольш любілі круціць мак з мёдам і цукрам. Калі даўжэй пакруціш, рука баліць. Трэба было змяняцца то з братам, то з маці. А хацелася паспрабаваць таго салодкага маку, аднак гаварылі, што калі будзеш яго есці, тады напэўна вылысееш.

І тут ксёндз Пахадойч звяртае ўвагу на моц вілейных традыцый, схіляючы галаву перад імі. Лысую галаву.

Калі ўжо неабходныя работы ў хаце былі скончаны і можна было выглядаць першай зоркі, мужчыны ішлі на панадворак, каб асвяціць будынкі і жывёлу.

— Як маем ужо сядаць да Вілеі, бацька пойдзе пасвянціць гумно і ўсе гаспадарчыя будынкі. Казаў, што гэта будзе абаранняць ад маланак. Бацька асвячаў усю жывёлу, толькі не каня. Я пыталася: „Чаму ты, тату, не свенціш каня?” — успамінае Лілька Шорц. — А ён адказваў: „Таму, што яго не было ў стаенцы!”.

У Вацлава Хоцея з Юрашоў каня таксама не асвячалі, а цяпер увогуле адышоў ён ад гэтай традыцыі. Як гаворыць, ён сам з жонкай пастарэлі і няма ўжо дабытку.

Гаспадар, вяртаючыся з панадворка, прыносіў дахаты сена і сноп жыта.

— Яшчэ за маёй памяці пад абрус клалі сапраўды многа сена, — расказвае Маня Кажухоўская з Бабpоўнік. — Талеркі нават часам перакульваліся на стале.

Беларусы-католікі ў куце ставілі сноп жыта. Аднак ад гэтай традыцыі многія адышлі. На той прыклад, ксёндз Ян Пахадойч з Высокага і Вацлаў Хоцей з Юрашоў толькі помняць як дзяды ім прыпміналі аб гэтым звычаі. Язэп Шубзда яшчэ нядаўна прыносіў сноп у вілейны вечар. Аднак адкуль пачаў жаць камбайнам, гэтая традыцыя адмерла і ў яго хаце.



Вацлаў Хоцей

— Гэта быў нармальны сноп жыта, — кажа Язэп Шубзда. — Увахodзілася на старану і выбіралася такі раўнейшы. Яго называлі „бяда”. Пасля вячэры трэба было яго вынесці на двор. Гаварылі, што разам з ім выйдзе і бяда з хаты.

Да вілейнай вячэры сядалі з першай зоркай, зразумела, калі надвор’е дазваляла яе ўбачыць. Пры накрытым белым абрусам стале збіралася ўся сям’я. На пачатку ўсе ўставалі і гаспадар-бацька пачынаў малітву. Найчасцей гаварылі *Ойча наш* або чыталі фрагмент евангелля ад святога Лукі аб нараджэнні Хрыста. Ніколі не забываліся аб малітве за памерлых, пакідаючы ім таксама адно парожняе месца пры стале. Гаспадар таксама першым браў у рукі аплатку і пачынаў дзяліцца ад найстарэйшай асобы ў сям’і. На вілейным стале абавязкова была куцця і ад яе людзі пачыналі вячэраць. Апрача таго ставілі капусту з грыбамі, аўсяны кісель, селядзец у разнавідных формах, рыбу, пірагі з макам, лазанкі, ламаньцы і кампот з сушаных фруктаў. На Вілеі ў беларусаў Сакольшчыны не было так папулярных сёння страў як карп ці чырвоны боршч. У Тарэсы Алізаровіч са Слойкі варылі цэлую бульбу і мачалі яе ў алей, які заставаўся з-пад селядцоў.

— Калісь селядцы прадавалі ў бочках. Яны былі смачнейшыя, такія тоўстыя. З-пад селядцоў бралі алей і дадавалі туды яшчэ цыбулю, муку і ўзнікаў такі соўс. Вельмі смачны да бульбы, — успамінае спадарыня Тарэса. — Абавязкова трэба было паспрабаваць усіх страў.

Людзі ўспамінаюць, што хаця вілейная вячэра была посная, то ежа ўсім смакавала.

Пасля вячэры дзеці не выглядалі святога Мікалая. Як сказаў кс. Ян Пахадойч, адчуваўся, што дзесьці гэты Мікалай ходзіць, але ніколі не заглядаў да Высокага. Калі ўжо бацькі хацелі зрабіць неспадзяванку дзецям, давалі ім цукеркі. Седзячы яшчэ пры вілейным стале, сямейнікі выцягвалі сцяблінкі сена з-пад абруса, каб даведацца якое чакае іх жыццё. У залежнасці ад колеру і даўжыні сцябліны меркавалі аб якасці і працягласці жыцця.

Сена, якое ляжала на стале, пасля вячэры некаторыя аддавалі жывёле. У кс. Яна Пахадойча бацька карміў ім жывёлу, калі вяртаўся з пастэркі. І хаця выносячы сена можна было крыху пабрудзіць падлогу, спадарыня Ядвіга ўспамінае, што нельга было замятаць хату, каб куры не спынілі несціся. А каб напэўна добра неслі яйкі, трэба было занесці ім у куратнік вілейнай куцці.

У пазнейшай частцы вілейнага вечара беларусы-католікі спявалі касцельныя калядкі, як і кароткія прыпеўкі, так званыя *кантычкі*. А вось песня, якая запамяталася вясковаму спеваку са Слоі спадару Станіславу.

*Што ж там дзеўкі за прыгода, агонь гарыць, вялікія цуда.*
*Кажуць людзі, цар з’явіўся, у Бетлееме нарадзіўся.*
*Ой пайдзем да яго, мы паглядзім малаго.*
*То ж там лежыць цар багаты, без палацаў і без хаты.*
*То ж там лежыць у жалабку дый на сянку сцябалко.*
*Ой прыйшло двох пастэры, ох заігралі на ліры.*
*Даюць свае падаркі, кашу з маслам, прываркі.*
*За гэто вам ласка будзе, за век векаў не забудзе.*

Каб поўнасцю перажыць гэты непаўторны ў годзе дзень, а дванаццатай гадзіне вечара людзі ішлі да касцёла на пастэрку. З так перажытай Вілеяй можна было спакойна ўступіць у надыходзячы Новы год.



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

# з о р к а
для дзяцей і моладзі





# У НАС ЗАЎСЁДЫ МНОГА ДЗЕЕЦЦА!

Калі ў класе мы спыталі хто хоча быць прафесійным акцёрам, угару стрэліў лес рук і пачуўся радасны вокліч: Я-я-я-я-я...!

— А я то хачу быць *пясэнкаркай*, — дадала ад сябе Зося Конюх.

— А я акцёрам, ветэрынарам, музыкантам, спартсменам, — перабіў усіх Адрыян Гаінскі.

Цягам гадзіны дзеці распавядалі пра свае ролі і пра новыя пастаноўкі, якія рыхтуюць на беларускім тэатральным гуртку. У школе працуе аж чатыры тэатральныя групы, і кожная з іх рыхтуе новы спектакль. Пакажуць іх бацькам, сябрам, сваякам на завяршэнне школьнага года.

Вялікі выклік паставілі сабе чацвёртакласнікі, якія рыхтуюць музычны спектакль на аснове вершаў з цыкла „Жывінкі з глыбінкі" аўтарства Міры Лукшы.

— У тэатры я — Сарока, — заяўляе Нюта Карнілюк. Нюта палюбіла сваю гераіню Сароку Райку з Сарочай Ножкі, якая як зоркі-акцёркі ў Галівудзе ступняй значыць сваё месца на карце Падляшша. Спецыяльна для яе славутай ножкі нашыя людзі назвалі вёску пад Белавежскай пушчай.

— А я іграю ролю Жука — кажа Зося Конюх. Слаўны ў свеце рыцар, які не стане ваяваць з якім-небудзь хамам... Ну, хіба што ў абароне дамы! Зося ў класе староста. Апрача школьных заняткаў яна ходзіць яшчэ ў музычную школу і на розныя дадатковыя заняткі.

— Агулам у мяне яшчэ шэсць дадатковых заняткаў, — адзначае.

— І не стамляешся?

— Не, гэта нармальна... Вось сёння ў мяне экзамен па класе фартэпіяна.

Музычны спектакль невыпадкова ставяць дзеці чацвёртага класа. Амаль усе яны вывучаюць ігру на нейкім інструменце, спяваюць, танчаць, малююць, вывучаюць замежныя мовы...

— Спецыяльна для гэтага спектакля пані Анна Бабік напісала нам музыку, — адзначае настаўніца Аліна Ваўранюк, якая вядзе ўсе тэатральныя гурткі. Цягам мінулага года падрыхтавалі яны ўжо больш чым палову твораў і паказалі іх у час школьных святкаванняў. А ўсіх вершаў-песень будзе адзінаццаць.

— А ці „Жывінкі" дапамагаюць у вывучэнні мовы?

— Часам адным вершам займаемся гадзіну часу. Гэта даволі складаныя тэксты, але таму яны цікавыя...

Пра свае тэатральныя планы расказалі таксама вучні пятага класа і тут голас узялі Матфей Пугацэвіч і Адрыян Гаінскі. Першы будзе Дратвой, а другі — Прынцам у пастаноўцы „Казачная блытаніна" паводле аўтарства сужонства Войцікаў. П'еса падабаецца дзецям, бо ў ёй тры прынцы і столькі ж прынцэс, а як вядома, усе любяць іграць такія ролі. У класе расказалі пра Олю Рэдкоўскую, якая пад уплывам ролі Прынцэсы запісалася на беларускую мову:

— Я шмат разоў падглядала праз акно як дзеці гулялі ў тэатральным гуртку, — успамінае Оля.

— А нам якраз не хапала Прынцэсы, — дадае настаўніца, — і мы яе заклікалі да нас...

— І як мяне ўзялі да гэтай ролі, то я ўжо хацела застацца ў гуртку, — кажа дзяўчынка. І запісалася на беларускую мову...

— Тут сапраўды весела і многаму можна навучыцца, — пацвярджае Клаўдзія Кулеса. Клаўдзія родам з Сілезіі. Год таму яе бацькі пераехалі жыць у Супрасль. Клаўдзія запісалася на беларускую мову пад уплывам сваёй сяброўкі Нюткі, каб разам з ёю хадзіць на тэатральныя і мастацкія заняткі. У „чацвёрцы" ёй падабаецца, што тут дзеці розных веравызнанняў, і што кожны мае свае традыцыі...

У Пачатковай школе № 4 у Беластоку дзейнічаюць тэатральныя групы і музычны гурток для дзяцей (які вядзе Анна Васькоўская). Неўзабаве пачнуцца мастацка-музычна-тэатральна-танцавальныя майстар-класы для дзетак ва ўзросце 5-7 гадкоў. Заняткі будуць весці вядомыя ў асяроддзі мастакі і самадзейнікі. Школа выходзіць з прапановамі для дарослых. Між іншым тут працуе дыскусійны клуб АБ-БА, на які запрашаюць вядомых людзей са свету культуры. Пры школе дзейнічае таксама гурт этнічнай музыкі, у якім спяваюць бацькі. Цягам апошняга часу развучылі яны песні з Лукі — вёскі, якую напрыканцы мінулага стагоддзя выселілі з-за Семяноўскага вадасховішча. Плён будзе запісаны на CD. Таксама ў планах фанаграфічныя запісы песень для вучняў першага, другога і трэцяга класаў.

— У нас увесь час многа дзеецца, — кажа Аліна Ваўранюк. — Вось, 13 снежня запрашаем бацькоў на „Развітанне з восенню", якое падрыхтавалі мы з нашымі першакласнікамі.

**ЗОРКА**

## Вершы Віктара Шведа

### Я пішу, чытаць не ўмею

Адазвалася Агата:
— Я пісаць умею, тата.
— Гэта, доня, дасканала,
Прачытай, што напісала.

— Так страшэнна я крызмолю,
Што не прачытаць ніколі.
Дык няма такой надзеі,
Я чытаць яшчэ не ўмею.

### Таўстун

Скардзіцца маме Коля
І стрымлівае плач:
— Смяюцца з мяне ў школе,
Што я такі пузач.

— Няхай сабе гавораць,
Ды гэта ж пустата!
Выйдзі на панадворак,
Бо ў хаце цесната.

## Хто лепшы за ўсіх

***На вуліцы сярод людзей заблудзілася дзіця. Бегае, крычыць, шукае маці. Людзі пытаюцца ў дзіцяці: „Якая твая мама, дзяўчынка?". А дзіця праз слёзы адказвае: „Ці ж вы не ведаеце? Мая мама лепшая за ўсіх".***

*Л. Талстой*

# Перамагла Патрыцыя Карлаў




У пятым выпуску Конкурсу на найлепшы верш за кубак Войта Гарадоцкай гміны „Кожны пісаць можа” перамагла вучаніца II класа гімназіі імя Роду Хадкевічаў у Гарадку Патрыцыя Карлаў. Узнагароджана была цэлая нізка яе вершаў — „Калыханка”, „Столькі ўспамінаў!”, „Ноч”, „Рай”, „Лісток”, „Цяжка ў цемры...”

— Патрыцыя — фантастычная маладая дзяўчына, — прызналася яе настаўніца Ірэна Матысюк. — Прыгожа піша, цудоўна гафтуе, вышывае, мае мноства талентаў, прытым памагае маме дома, апякуецца малодшымі. Сёлета за свае творы атрымала таксама вылучэнне ў конкурсе „Маёвая канвалія” ў Васількаве.

— Я з Пяшчанік, дачка Крысі Вараховіч і Дарка Карлава, — кажа Патрыцыя. — На беларускую мову хаджу ад чацвёртага класа. Вучыла мяне і вучыць беларускай мове пані Эля Раманчук. Ад пачатку маёй адукацыі прымаю ўдзел у конкурсах беларускай мовы, літаратурных. Вершы пішу пра ўсё, найбольш пра прыроду і пачуцці. Люблю вышываць. Маю ўжо вышытыя крыжыкам дзве большыя карціны і многа меншых. Лічу што іх яшчэ замала, каб паказаць на выставе. Вышываю ў вольны час — у школе таксама! Калегі не смяюцца з мяне, што заўсёды штосьці раблю. Жартуюць, што я магла б быць іхняй мамай, бо ўмею варыць, прыбіраць, вышываць, хаця мне толькі яшчэ 14 гадоў!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Патрыцыя КАРЛАЎ

## Ноч

Зоркі па небе ходзяць,
Ціха спяваюць свае песні,
Вышчарблены месяц
Шукае шчасця
Паміж зорaў.

Мы спакойна спім
У сваіх дамах.
А зоркі іграюць мелодыю
Няздзейсненых надзей.
Павольна ўстае новы дзень,
Новы лепшы дзень.

## Загадка

*Адказы дашліце ў „Зорку” да 15 студзеня 2013 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.*

Ляцелі галубы,
Селі на дубы —
Па пары на кожны.
Зірнулі ўбок
а адзін дубок —
парожні.
Паасобку рашылі сесці —
Аднаму не хапіла месца.
Колькі дубоў,
Колькі галубоў?

Васіль Вітка

***Адказ на загадку № 47:*** *кніжка. Узнагароду — набор маркавых каляровых алоўкаў — выйграла **Marga Пташынскя** з Нараўкі. Віншуем!*

## ЯЗЫКАЛОМКА

**Мальва млява млее ў сонцы,**
**Альяс сохне на аконцы.**
**Пойдзе дождж, палье загон,**
**Налью я вады ў вазон.**

**Міра ЛУКША**

# Музыка з кайфам

## Быў такі канцэрт!



fm.tuba.pl

Сёння распавяду пра канцэрт. Нібыта нічога незвычайнага, кожны з нас бывае на канцэртах. Аааа, няпраўда. Толькі нам так здаецца, што ўсе бываюць. Ёсць сярод нас такія, якім гэта рэдка здараецца і перш за ўсё іх трэба пераканаць, бо вартасць музыка пазнаеш па тым як ён выступае і як кантактуе з публікай!

Апошнім часам такі цудоўны канцэрт здарыўся на пачатку снежня. Свой юбілей адзначала бадай самая вядомая польская фольк-каманда ў свеце. „Капэла з вёскі Варшава” (Warsaw Village Band) гэта зараз тры таленавітыя дзяўчыны, якія граюць і аднaчасова спяваюць белымі галасамі. Дапамагае ім трох мужчын, выдатных інструменталістаў. Вядома, што на працягу пятнаццаці гадоў склад „Капэлы” мяняўся, але характар і адкрытасць на эксперыменты застаюцца такімі ж самымі. Юбілей гэта нагода сустрэцца з тымі, якія вызначалі шляхі, дапамагалі, супольна стваралі. Такім чынам юбілейны канцэрт стаў святам фольк-музыкі ды сапраўдным канцэртам зорак і прыкладам, што калі ставішся да свету адкрыта, ён таксама будзе на цябе адкрытым.

Уражваў напэўна вельмі кранальны і чалавеча блізкі момант, калі на сцэне выступіў калектыў Стася Райкоўскага з Райковіч на Сувальшчыне, які спяваў песні на польскай мове, але месцамі прабівалася беларуская мова і адчувалася культурная польска-беларуская супольнасць. Прытым песні гэтыя былі інспірацыямі для „Капэлы”, што прэзентавала ў юбілейны вечар. Калі хтосьці чакаў гасцей з галіны рок-н-рола, то арганізатары не падвялі, бо заспяваў сам Тыман Тыманскі, які, дарэчы, і пачаў вечарыну. Для любіцеляў электроннай музыкі зоркі прэзентавалі супольныя выкананні з дыджэем Feel-X, сябрам легендарнага гурту „Калібэр-44”, але сапраўдны кайф прынёс фінал, калі хтосьці слухае джаз. Упершыню са славутай „Капэлай” выступіла зорка — Лешак Можджар. Фінал годны зорак і легендаў.

Але я вяртаюся да ідэі канцэртаў. Найважнейшае, каб мы вучыліся дацэньваць працу артыстаў, а найлепш, калі гэта зробім, купляючы квіток на канцэрт і ўзнагароджваючы іх апладысментамі. А калі вы толькі пачынаеце прыгоду з канцэртамі, прапаную пачаць з калядных вечарын — у іх таксама свая атмасфера і вартасць, наша традыцыя і супольнае святкаванне.

**i_basovka@o2.pl**

# Польска-беларуская крыжаванка № 51

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 46:**

Бор, акр, рыска, калыска, пошум, так, час, атол, места, сокал. Том, кот, каштан, Крым, Ас, рыс, скачок, Ака, Ала, Ас.

Узнагароды, CD з беларускай музыкай, выйгралі **Караліна Каравай, Наталля Марчук, Мартына Леанюк, Наталля Васько, Крыстына Леўша** з Нараўкі, **Магдаліна Хвашчэўская, Марыюш Асташэўскі, Оля Галёнка, Вікторыя Артэмюк** з Бельска-Падляшскага, **Караліна Кадлубоўская** з Орлі. Віншуем!





■ Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Беларускія абрады на сцэне

«Малінкі» выступілі з абрадам «На Юрыя»

**XIX Прэзентацыі абрадавых калектываў «Беларускі абрад на сцэне» праходзілі ў Бельску-Падляшскім, Дубічах-Царкоўных і двойчы ў Беластоку, а іх фінальны выступ адбыўся 25 лістапада ў Гайнаўскім доме культуры. Можна там было ўбачыць прадстаўнікоў старэйшага пакалення, якое састаўляе асноўную частку вясковага насельніцтва і нашых фальклорных калектываў. Цікава было таксама паглядзець ігру дзетак і моладзі, якія вяртаюцца да нашых традыцый. У выпадку апошніх, гэта галоўная заслуга іх апекуноў, пасіянатаў тэатральнай дзейнасці, якія хочуць і любяць займацца з маладымі людзьмі.**

З абрадам «Вясна і лета на Бельшчыне» выступіў тэатральны калектыў «Антракт» Бельскага дома культуры. Дзяўчаты і хлопцы, у галоўным з бельскай «тройкі», спявалі веснавыя і летнія песні, вадзілі карагоды і паказалі фрагменты жніўных абрадаў. Вучні ўдала рэканструявалі абрады, выступаючы ў колішняй святочнай вопратцы. Нашы продкі выходзілі на поле ў знішчанай вопратцы, але ў час веснавых гульняў ці жніўных абрадаў апраналі святочнае адзенне. Вучні на сцэне ГДК заспявалі архаічную рагульку, рэканструяваную на падставе архіўнага запісу зробленага на Бельшчыне і мелодыі рагулькі з Дабрывады.

— Мы дапасавалі дабрывадскую мелодыю да слоў архаічнай рагулькі, якую знайшлі ў кніжцы гісторыка Юзэфа Ярашэвіча, ураджэнца Бельска, і атрымалася вельмі цікавая песня. Я думаю, што прыблізна так і гучала яна ў XIX стагоддзі, якую спявалі ад Вялікадня да Провадаў. У песні расказваецца пра прыгожую і прыгожа апранутую дзяўчыну, якая ў веснавы час гуляла з моладдзю, — патлумачыла апякунка «Антракта» Альжбета Фіёнік.

Вельмі ўдала запрэзентаваліся самадзейнікі з Рыбал, якія займаюцца ў вясковым доме культуры пад наглядам Лідзіі Мартынюк. Займальна паказалі яны абрад «Шчодры вечар» на фоне зімовага сцэнічнага афармлення. На асаблівую ўвагу заслугоўвае факт, што ў клубе ў Рыбалах займаюцца прадстаўнікі трох пакаленняў. Побач дзетак цікава выступілі моладзь і асобы сталага ўзросту. У гэтым вялікая заслуга Лідзіі Мартынюк, якая ўмее прыцягнуць да тэатральнай актыўнасці аднасяльчан рознага ўзросту.

Падобную з'яву можна заўважыць таксама ў Малінніках. Сёлета «Малінкі» выступілі ў моцна амаладжаным складзе. Пасля адыходу дзвюх старэйшых асоб да калектыву «Арляне» састаў калектыву папоўнілі дзяўчаты. Кіраўнік «Малінак» Вера Нічыпарук — добры вясковы менеджар і настаўнік. Патрапіла яна прыцягнуць маладых дзяўчат да ўдзелу ў фальклорным мерапрыемстве і распрацавала сцэнарый юр'еўскага абраду.

— Калі паменшаў склад калектыву, я запрапанавала нашым дзяўчаткам выступіць з абрадамі і яны далі станоўчы адказ (Анна Кулік, Гося Баршчэўская, Анна Нічыпарук, Іаланта Іванюк і Альжбета Іванюк — А. М.), — сказала Вера Нічыпарук. — Мы паказваем абрад «На Юрыя» такім, якім ён быў у маёй сям'і. Я ўпрыгожыла абрад дыялогамі. Я сама прыдумваю, як што паказваць, але калі мы выступаем на сцэне, забываем крыху і трэба імправізаваць. Належным чынам ацанілі нашыя выступы ў час Сустрэч вясковых тэатраў у Ломжы, дзе мы здабывалі першыя месцы.

— Мяне ў калектыве «Малінкі» трымае любоў да спеву. Я развучыла многа нашых песень, цікаўлюся народнымі абрадамі, — сказала Анна Кулік, якая зараз працуе ў Варшаве і са сталіцы прыязджае на рэпетыцыі і канцэрты.

— Зараз у вёсцы няма куды выйсці. Дзякуючы выступам можна наведаць цікавыя месцы ў нашым рэгіёне і далей у Польшчы, — дадала Анна Нічыпарук з Маліннік.

Абрад «Перад выездам да шлюбу» прадставіў калектыў «Васілёчкі» з Бельска-Падляшскага, спецыяліст па прэзентацыі абрадаў. У гэтым годзе «Васілёчкі» (кіраўнік Ніна Бялецкая) выступілі з песнямі, цікавымі дыялогамі і гумарам, які спадарожнічаў вясельнікам. Новай з'явай у час агляду быў гарадскі абрад «На кірмашы ў Беластоку» ў выкананні калектыву «Рэчанька» з Козлікаў. У калектыве ўдала запрэзентаваліся Люба Гаўрылюк і яе дачка Ала Каменская, якім памагалі іншыя вяскоўцы. «Збучанкі», якія зараз выступаюць у моцна адноўленым складзе, але з тым самым кіраўніком Кацярынай Ціханюк, запрэзентавалі «Вячоркі». Іх выступ з-за моцнага гумару быў прадбачаны выключна для дарослых асоб. «Бацькоўскае бласлаўленне» прадставілі жанчыны з калектыву «Каліна» з Дашоў. Падрыхтавалі яны абрад пад наглядам свайго кіраўніка Зофіі Кердалевіч. Калектыў «Падляшанкі» з Гарадзіска запрэзентаваў жніўны абрад «Перапяліца», распрацаваны пад наглядам Анны Тэслюк.

— Раней мы ўжо выступалі з «Вячоркамі» і «Пакудзеллем». Зараз будзем паказваць абрад «Перапяліца». На прэзентацыі абрадаў цікава паглядзець як старэйшым, так і маладым асобам. Зараз сам камбайн змалоціць збожжа, а ў мінулым трэба было многа напрацавацца, каб збожжа сабраць з поля. Пасля цяжкай працы людзі радаваліся і рабілі «перапяліцу», што мы і пакажам на сцэне, — расказвала Надзея Асіпюк з Гарадзіска.

Не ўсе нашыя вакальныя калектывы рашаюцца паказваць народныя абрады, бо гэта няпростая справа і таму я звярнуў увагу на «Арлян» з Орлі, найстарэйшы наш беларускі фальклорны калектыў, з вялікім вопытам, які нядаўна адкрыў свае тэатральныя здольнасці і сёлета другі раз запрэзентаваў народны абрад у час агляду, арганізаванага Беларускім грамадска-культурным таварыствам.

— Год назад запрапанавалі нам падрыхтаваць нейкі абрад. Мы рашыліся запрэзентаваць «Уваходзіны». Пазней гэты абрад запрэзентавалі на Аглядзе абрадаў у Тарнагродзе і атрымалі там узнагароду. Неўзабаве будзем святкаваць 70-годдзе нашай дзейнасці. Раней мы не паказвалі абрадных сцэнак, толькі спявалі беларускія песні. Калі на аглядзе ў Тарнагродзе атрымалі ўзнагароду, а публіка нам горача апладзіравала, гэта нас падбадзёрыла і заахвоціла да абрадаў. Падрыхтавалі мы «Пакудзелле», з якім сёння выступім. Мы ўжо не хадзілі на пакудзелле, але памятаем, як нашыя мамы збіраліся, каб супольна працці воўну. Дзеці нашыя ўжо не ведаюць, як працці на калаўротку і таму ім цікава паглядзець абрадавыя інсцэнізацыі, — расказвалі арлянскія самадзейніцы Ніна Гаўзэ, Тамара Русіновіч, Марыя Адзяевіч і Зінаіла Навіцкая. Абрад паказвалі яны ў арыгінале, на гаворцы, а песню «Кудзельніцы» спявалі на літаратурнай беларускай мове.

— Важна, каб прэзентаваныя абрады былі аўтэнтычныя і аздобленыя гумарам, што падабаецца публіцы. Хаця з гумарам нельга пераборшчыць, бо тады ён страціць сваю займальнасць, — заявіў Віталь Соха з Тапароў, які раней выступаў з «Малінкамі», а зараз займаецца з «Арлянамі».

— Я хацеў звярнуць увагу на высокі ўзровень прэзентаваных абрадаў і іх разнароднасць, — абагульніў Ян Сычэўскі, старшыня БГКТ, якое з дапамогай Гайнаўскага дома культуры арганізавала фінальны агляд. Сярод гасцей агляду былі гайнаўскі бурмістр Ежы Сірак і дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч, якія выказалі задавальненне, што фінальны агляд беларускай абраднасці арганізуецца ў Гайнаўцы і мясцовыя жыхары могуць пазнаёміцца з даўнімі мясцовымі традыцыямі.

— На падставе сёнешніх прэзентацый відаць, што нашыя таленавітыя жанчыны і мужчыны з'яўляюцца выдатнымі сцэнарыстамі, акцёрамі і рэжысёрамі спектакляў, бо ж паказаныя абрады не сырыя, а ўпрыгожаныя займальнымі дыялогамі, каб зацікавіць публіку. Аграрныя, бытавыя і сямейныя тэмы абрадаў сведчаць аб іх разнароднасці, а я асаблівую ўвагу звярнула на выступы «Малінак» з Маліннік і «Падляшанак» з Гарадзіска, якія захавалі аўтэнтычнасць абрадаў, а іх простыя тэатральныя прыёмы добра трапляюць да гледача. У нас, у Студзіводах, выступалі ўжо «Малінкі» і я думаю, каб жанчын з Гарадзіска запрасціць на выступы, на «Спасаўскія запусты», — сказала Альжбета Фіёнік, спецыяліст па тэатральнай дзейнасці, якая ўдала вяла мерапрыемства і назірала за выступленнямі нашых калектываў.



«Арляне» запрэзентавалі абрад «Пакудзелле»



«Падляшанкі» паказалі абрад «Перапяліца»

■ Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Каля Страблі (2)



Фрагмент старых могілак у Страблі

**Даведнікі інфармуюць, што двор у Страблі пабудаваў быў Антоніо Кройна, італьянскі доктар караля Жыгімонта I Старога, якога ў „пасагу” прывезла разам са шматлікай світай супляменнікаў каралева Бона. Але ці гэты доктар сапраўды будаваў той двор? Магчыма, што гэта быў непаседа, які — не зважаючы на сваё знатнае паходжанне — не цураўся нейкай фізічнай працы, але і так напэўна будавалі той двор сваімі мазалістымі рукамі мясцовыя мужыкі. А кім жа тыя мужыкі былі, на якой мове яны гаварылі, якога рэлігійнага абраду яны трымаліся?**

Як ужо было згадвалася, на той час, значыць у першай палове XVI стагоддзя, мужыкі ў недалёкіх Дакторцах, якія найбольш верагодна мазолілі свае рукі пры пабудове страбельскага двара, трымаліся яшчэ ўсходняга абраду, значыць былі праваслаўнымі, бо ж пан Стажынскі загнаў у касцёл іхніх, уніяцкіх ужо, нашчадкаў сама менш два стагоддзі пазней. Магчыма, што пан Стажынскі кіраваўся пры гэтым самымі высакароднымі парывамі, мяркуючы, што толькі ягоны рэлігійны абрад гарантуе будучае прабыванне ў Царстве Нябесным, якога ён, відаць, не адмаўляў і ніжэйшаму саслоўю. Падобным чынам руплівцы мужыцкай светлай будучыні паўтара стагоддзя пазней заганялі мужыцкія масы ў калгасы.

А цяпер крыху зноў пра паноў, бо ж трэба дацаніць іхнюю натугу, каб запісацца на старонках гісторыі: мужыкам — мужыцкае, а панам — панскае. Спадкаемцам Страблі пасля смерці доктара Кройны стала ягоная дачка Барбара, а пасля чарговы доктар — Фогельведар, а далей сям'я Туроўскіх, пры якіх у **1617** годзе побач двара быў узведзены драўляны касцёл, а каля дваццаці гадоў пазней — мураваны. Але побач касцёла распаложаныя старыя могілкі, на якіх, як мяркуюць даследчыкі даўніны, стаяла калісь і царкоўка. На гэта ўскосна паказваюць захаваныя дакументы, у якіх згадваецца пра наяўнасць у могільнікавай царкоўцы-капліцы візантыйскіх ікон. Калі гэты храм перастаў выконваць свае функцыі, тады набажэнствы паводле ўсходняга абраду адбываліся ў касцёле, напярэмен з лацінскімі. Дарэчы, у XVIII стагоддзі ў Страблі пастаянна прабывалі манахі Супрасльскага манастыра. Да часу, пакуль пан Стажынскі загнаў усіх пад адзін скіпетр.

У **1639** годзе Страбля становіцца ўласнасцю роду аршанска-мазавецкіх вяльможаў Кужанецкіх, які валодаў таксама маёмасцямі ў Ясяноўцы, Юхноўцы, Стараволі, Саломянцы і Каліноўцы. У **1717** годзе Міхал Кужанецкі перадаў сваю страбельскую маёмасць Супрасльскаму манастыру, сам падаючыся туды ў манахі. Партал Драгічынскай дыяцэзіі: „Michał Marcin Kurzeniecki (zm. 1736) w dniu 6 maja 1717 roku oddał dobra strabelskie pod zastaw unickim bazylianom z Supraśla. Wkrótce po tym 2 sierpnia 1721 roku opat supraski Łukasz Leon Kiszka (1668-1728), greckokatolicki opat supraski (1708-1711) i metropolita kijowski (1713-1728), przyłączył parafię do kościoła unickiego”. Аднак беручы пад увагу, што такая здзелка была не надта згодная з законам, ягоны брат Зыгмунт адсудзіў Страблю сабе і прадаў зараз яе згаданаму Мацею Стажынскаму ці — як у іншых крыніцах згадваецца — Стажэнскаму, старосту бельскаму, браньскаму і ганёндзкаму, ад'ютанту гетмана Яна Клеменса Браніцкага. Новыя ўласнікі на месцы драўлянага двара ўзвялі яшчэ ў XVIII стагоддзі мураваны палац, які там стаіць па сённяшні дзень. Праўда, змяніліся яго ўласнікі, бо пасля Студзеньскага паўстання ўласнік быў сасланы ў Сібір, а маёмасць сканфіскавана, пераходзячы ў рукі князёў Абаленскіх і Агінскіх, а пасля вяртаючыся зноў да роду Стажэнскіх, якія, аднак, у міжваенны час задоўжыліся і маёмасць забраў банк, прадаючы іншай сям'і, а пасля вайны маёнтак забрала казна. У палацы ў розны час размяшчаліся школа, дырэкцыя пэгеэру, грамадская рада і жылыя камунальныя памяшканні, а палац занепадаў. Зараз палац зноў у маёмасных прыватных руках, вяртаецца да прыстойнага выгляду.

А што было далей з касцёлам? Партал дыяцэзіі: „Wspomniany starosta brański [Мацей Стажэнскі] okazał się hojnym kolatorem strabelskiej świątyni, odbudowując ją po zniszczeniach z 19 marca 1766 roku, kiedy to po nabożeństwie ku czci św. Józefa odpadł fronton kościoła razem z chórem. Projektantem nowej fasady, odbudowanej staraniem ks. Franciszka Szpakowskiego (prob. 1770-1782), był przypuszczalnie Jan Henryk Klemm, nadworny architekt hetmana Jana Klemensa Branickiego (1689-1771) z Białegostoku. W czasie I wojny światowej na początku sierpnia 1915 roku budynki kościelne i wieś zostały spalone przez dońskich kozaków. W czasie II wojny światowej w dniach 24-27 czerwca 1941 roku dach kościoła został podziurawiony odłamkami bomb. W latach pięćdziesiątych prace remontowe podjął ks. Władysław Hładowski (prob. 1953-1957). W latach 1962-1967 zainstalowano nowe organy zbudowane przez Czesława Kruszewskiego z Rembertowa — w miejsce starych, przywiezionych w 1866 z kościoła w Niemirowie (sprzedano je w 1962 roku do kościoła w Grodzisku k. Siemiatycz). Warto zaznaczyć, że w ołtarzu głównym strabelskiego kościoła znajduje się obraz Matki Bożej, zwanej „Wszechmocą Błagającą” (Deesis), który od wielu wieków otaczany jest szczególną czcią wiernych. Ta łaskami słynąca ikona Matki Najświętszej została przywieziona do Strabli około 1617 roku”. Да гэтага варта дадаць сказ з кансерватарскага апісання іконы: „Tło ugrowo-zielonkawe z napisem cyrylicą w lewym narożniku”. Ікона была прывезена ў Страблю раней, была ўжо там у **1612** годзе, значыць у той час, калі там яшчэ не было касцёла…




Прыгавор алкаголю ў Дакторцах

І яшчэ афіцыйны партал: „W południowo-zachodnim narożniku cmentarza przykościelnego znajduje się dwukondygnacyjna, klasycystyczna dzwonnica zbudowana w 1772 roku, kosztem wspomnianego Macieja Maurycego hr. Starzeńskiego. Na placu przed kościołem stoi kolumna, zwana słupem granicznym z 1774 roku, ufundowana przez starostę brańskiego Macieja Maurycego hr. Starzeńskiego. W ogrodzie, niedaleko kościoła stoi duża, drewniana plebania zbudowana ok. 1920 roku z materiału pochodzącego ze starej fabryki gwoździ w Strabli”.

Насупраць Страблі, на паўночным беразе Нарвы распаложана вёска Дакторцы. Раней яна называлася Худзебін, але мабыць ад дактароў, што былі ўласнікамі не толькі Страблі, але і навакольных вёсак, назвалі яе Дакторцамі. Зараз Дакторцы асацыюющца перш за ўсё рэкрэацыйнымі комплексамі, што распалажаны за вёскай. А вось у самой вёсцы маю ўвагу прыцягнуў іншы комплекс. Менавіта на абшырным пляцы знаходзіцца нешта, што можна аднесці да аб'ектаў тыпу *oaza*, значыць прызначаных рэлігійнаму выхаванню. Ёсць там невялікая капліччка, прысвечаная святому Антонію, але за ёю нешта, што можна назваць мастацкай інсталяцыяй. Падумалася мне, што гэта нейкая афіцыйная місіянерская ўстанова, аднак партал Страбельскай парафіі, да якой належаць Дакторцы, нічога пра яе не згадвае. Калі я прыглядаўся аб'екту, з супрацьлеглай хаты выйшла жанчына, якая сказала мне, што гэта чыста прыватная ініцыятыва. Ёсць там канструкцыя, якая паказвае як чорны характар перакульвае віламі вялікі крыж з Распяццем. Побач шыбенічка, на якой вісяць бутэлькі з-пад разнамасных алкагольных напояў, і табліца са смяротным прыгаворам алкаголю…

Жанчыну цікавіла, ці я, прыглядаючыся аб'екту і шчоўкаючы здымкі, часам не з'яўляюся нейкім рэдактарам. Я абачліва аднaзначна на гэты конт не выказаўся. Спытаў я яе пра школьны будынак з шыльдай „зялёнай школы”. Паведаміла яна мне, што вяскоўцы ладзяць там свае мерапрыемствы. Што жыве там тры сям'і, у тым ліку дзве маладыя пары, якім бацькі не дазволілі жыць з сабою. Быў там калісь прымаў і лекар, але мала хто да яго хадзіў, бо амаль усе жыхары Дакторцаў прапісаны да лекараў у Беластоку. Бо ў Беластоку можна выканаць усе працэдуры і адразу запісацца да спецыяліста. Вось і мая суразмоўніца таксама лечыцца ў Беластоку, у добрага лекара, а дакучаюць ёй ногі так, што зімою аж два месяцы не хадзіла ў касцёл…

Калі я зайшоў ужо ў Лешню і прыглядаўся тамашняму міні-скансэну з крытых саламянай страхой стадолы і хлява, дагнала мяне мая нядаўняя субяседніца, на ровары:

— Jak ja powiedziała mężowi o Panu, to on na mnie: „A czemuż ty jemu nie powiedziała? To może naprawde był redaktor!”

А яе, ейнага мужа, а мабыць і шматлікіх іншых жыхароў Дакторцаў хвалюе адна справа. Менавіта за вёскай ёсць гмінны ўчастак, які мела купіць нейкая прыватная асоба. І вось нядаўна на той участак нехта невядомы вяскоўцам на працягу двух дзён навазіў з Беластока мноства ўсялякага друзу. І добрасардэчныя людзі хвалююцца, што той новы, несвядомы гэтай апошняй падзеі, купіць участак завалены друзам…

Падаўся я з Лешні ў бок Рынкаў, цераз Зімнохі. Гэта не толькі чыгуначны прыпынак, але і дзве вёсачкі. Партал суражскага магістрата: „Pierwsza wzmianka źródłowa o Zimnochach Święchach i Zimnochach Susłach pochodzi z przywileju króla Aleksandra I dla kościoła w Surażu z 1501 roku. Obie miejscowości były zobowiązane do płacenia dziesięciny na rzecz suraskiej świątyni. Najprawdopodobniej Zimnochy powstały w XV stuleciu. Były związane z osadnictwem bojarów ruskich, osadzanych w pobliżu starych grodów dla obrony i służby wojskowej. Z czasem bojarzy upodobnili się w obyczajach i prawach do szlachty koronnej”.

І пра Рынкі, зноў суражскі партал: „Pierwsza wzmianka źródłowa o Rynkach pochodzi z inwentarza starostwa suraskiego z 1558 roku. W najstarszych źródłach wieś nazywana jest Rymki (Rimki)”. Хто ведае, ці не ад рэлігійнасці пайшла назва вёскі… „W 1957 roku mieszkańcy Rynek, wraz z wiernymi z sąsiednich Średzińskich i Zimnochów, zorganizowali kaplicę w odkupionych garażach rolniczych. W przystosowanie budynków do celów sakralnych przyszli parafianie włożyli wiele pracy i pieniędzy oraz musieli pokonać utrudnienia ze strony ówczesnych władz. Mimo to, w 1979 roku biskup Edward Kisiel utworzył samodzielny wikariat w Rynkach, a w 1985 roku erygował parafię pw. Najświętszej Marii Panny Częstochowskiej. W latach 1992-1995 wzniesiono w Rynkach nowy kościół”. Мінула 55 гадоў і ў Рынках выраслі два касцёлы…

# Бескарыслівая ахвяра спадарыні Генавефы

Іаанна ЧАБАН

Калі запытаць любога крынчаніна пра найбольш вядомую мясцовую санітарку, безумоўна ўсе, незалежна ад узросту, аднагалосна адкажуць: „Генавефа Пархоўская”. Спадарыні Генавефе ўжо больш за восемдзесят. Доўгія гады цяжкай працы, у якую ўклала ўсё сваё сэрца і сілы, адбіліся балючымі слядамі на яе ўласным здароўі. Пры нагодзе нашай першай сустрэчы спадарыня Генавефа запрапанавала супольна падысці ў цэнтр Крынак, пад тры крыжы Яна Паўла ІІ, каб паставіць там знічку.

— У касцёл мне ўжо задалёка хадзіць, таму я хацця тут памалюся, — расказвае спадарыня Генавефа.

А малітва яна за здароўе і душэўны спакой усіх крынчан, без розніцы — католікаў і праваслаўных. Нацыянальныя і канфесійныя падзелы не існавалі для яе і ў далёкім пачатку, аказваецца, яе незвычайнай, прафесіянальнай дарогі.

* * *

— Я жала якраз напроціў крынскага шпіталя, — пачынае свой аповед спадарыня Генавефа. — Помню, у час Другой сусветнай вайны безупынна турбавалі мяне жахлівыя енкі і крык нямым голасам „Мацер Божая, спасай”. Гэта былі раненыя рускія салдаты. Яны прасілі помачы, змілавання, а нават смерці. Пасля раздаваліся праклёны, хіхіканне, быццам у вар'яцкім доме і на канец наступала звінячая ў вушах цішыня.

У гэтыя бяссонныя ночы я прабавала зразумець, чаму ніхто не можа аблягчыць іх долю. Неўзабаве сама рашылася ахвяраваць сябе ўсім хворым і пацярпелым. У крынскай лячэбніцы я пачала працаваць ў сакавіку 1943 года. Тады было там на штаце двух дактароў — Вігура, імя якога не засталося у маёй памяці, і Элігіюш Абуховіч, неўзабаве прызваны і адасланы ў армію. Працаваў там таксама фельчар Якуб Жэмер. Абавязкаў чатырох санітарак пільнавала начальніца, сястра Анна Савіч, якая заадно была для нас настаўніцай.

Пад нашым наглядам знаходзіўся не толькі крынскі шпіталь, але ўсе вёскі Крынскай, Шудзялаўскай і Берастаўіцкай гмін. Гэтая апошняя цяпер знаходзіцца на другім баку мяжы. Тады вёсак было шмат. У кожнай хаце жыло па некалькі пакаленняў. Гэтага не параўнаць з цяперашняй рэчаіснасцю. З сённяшняй перспектывы цяжка сабе ўявіць, што столькі абавязкаў спачывала на плячах чатырох санітарак. Адна санітарка трымала кругласутачнае дзяжурства ў дзвюх шпітальных будынках. У адным із іх размяшчалася аперацыйная і пасляаперацыйная, радзільная і пострадзільная палаты, тры агульныя і нашая дзяжурка. У другім шпітальным памяшканні размяшчаўся інфекцыйны аддзел з чатырма палатамі і дзяжуркай. Ваенным часам электрычнасці ў шпіталі не было. Мы карысталіся газавымі лямпамі, а празмернасць абавязкаў прымушала працаваць безупынна, у тым ліку і ўначы. Адной з галоўных ваенных падзей, якая запісалася, на жаль, толькі ў маёй памяці, з'яўляецца геройская абарона нашай лячэбніцы. Адступаючыя нямецкія войскі рашылі знішчыць шпітальныя будынкі разам з хворымі і пацярпелымі. У абароне крынскага шпіталя праславілася жонка доктара Абуховіча — Люба Абуховіч. Яна працавала настаўніцай у мясцовай школе і добра ведала нямецкую мову. Асабіста вяла перагаворы з нямецкім афіцэрам, які цвёрда падтрымліваў сваё жахлівае рашэнне. Спадарыня Абуховіч прабавала выкупіць будынкі і людзей прынесеным з хаты залатым гадзіннікам, але і гэта не дапамагло. Тады зняла з пальца сваю апошнюю каштоўнасць — шлюбны пярсцёнак. Гэты ўчынак напэўна кранўў сэрца нямецкага афіцэра.Такім чынам мы ўсе выратаваліся і па сённяшні можам карыстацца прыгожымі, гістарычнымі шпітальнымі будынкамі, узведзенымі ў далёкіх часах Расейскай імперыі. Жаль толькі, што гэтага здарэння не дацэньваюць нашыя мясцовыя гісторыкі і храністы.



Сядзяць (справа): медсястра Зофія Лісоўская, дантыстка Ліля (яе прозвішча сцерлася з памяці спадарыні Генавефы), доктар Францішак Пяткевіч і медсястра Зофія Руднік. Стаяць (справа): прачка Альбіна Піцэвіч, медсястра Генавефа Пархоўская, кухарка Анастасія Міклашэвіч, рэгістратарка, санітарка Ядвіга Саковіч, акушэрка Зіна Ганацкая, санітарка Налявайка, інтэндантка Фабіяна. Ззаду стаіць бухгалтар Юзэф Абухоўскі.

Доктар Вігура спецыялізаваўся ў хірургіі. Найчасцей дапамагаў ахвярам асечак, падстрэленым, вырэзваў адросткі сляпой кішкі. Работы было сапраўды шмат. Амаль увесь час мы праводзілі на працы. У мае абавязкі ўваходзіла, між іншым, штодзённая стэрылізацыя прылад, перавязачных матэрыялаў, пасцелі і фартухоў у сталітровым стэрылізатары. Самым цяжкім абавязкам было асісціраванне пры аперацыях. Падаючы наркоз за кожным разам я праходзіла сапраўднае пекла. Адзяваючы хвораму маску, адным паль-

праця́г ☞11




Дзеянні сучаснай беларускай улады, што асабліва бачна апошнім часам, накіраваны на тое, каб выпіхнуць з краіны адукаваных, але вальнадумных людзей, забараніць уезд у яе прадстаўнікам беларускай дыяспары, якія шчыруюць на ніве беларушчыны. Гэта натуральна прыводзіць да таго, што за межамі Беларусі назапашваецца немалы патэнцыял інтэлектуальнай сілы, намаганні якой скіраваны ў першую чаргу на крытыку крыўдзіцеляў. Хай сабе гэты патэнцыял пакуль не аформіўся ў нешта агульнае і моцнае, кшталту антысавецкага прыбалтыйскага лобі на Захадзе ў часы існавання СССР, але тут, як кажуць, галоўнае пачаць.

А пачатак ужо пакладзены — у суседніх з Беларуссю краінах гуртуюцца і гартуюцца эмігранты, якія ў першую чаргу праз інтэрнэт даводзяць сваю пазіцыю неўспрымання сённяшняй беларускай рэчаіснасці, абазначаючы сябе як паслядоўных крытыкаў, адным сваім існаваннем сцвярджаючы, што ўлада Лукашэнкі гэта не толькі падмеценыя ходнікі, але і катаванні, скрадання, знікненні, беспадстаўныя судовыя асуджэнні.

„Ніва” ўжо пісала пра сайты розных эміграцкіх арганізацый. Гэтыя інтэрнэт-прадстаўніцтвы збольшага з'яўляюцца спробай прадставіць выключна сябе ў сусветным павуцінні. Але нядаўна ў ім з'явіўся інтэрнэт-часопіс „Brainstorm” („Брэйнсторм”), прысвечаны грунтоўнаму аналізу сітуацыі ў Беларусі, альбо праблемам, звязанымі з ёй.

Месціцца даны часопіс па адрасе **http://issuu.com/pink_by/docs/brainstorm**, а выдаўцом яго і галоўным рэдактарам з'яўляецца экс-кандыдат у прэзідэнты Беларусі, а сённа палітуцякач у Чэхіі Алесь Міхалевіч. Менавіта ён разам з мінскай рэдактаркай Вольгай Быкоўскай і выпусціў у верасні гэтага года першы нумар „Брэйнсторму”.

„Мы думаем пра Беларусь”, — такі дэвіз месціцца на вокладцы электроннага выдання. „Часопіс прысвечаны сітуацыі ў Беларусі, неабходным рэформам, досведу суседзяў”, — перадае радыё „Свабода” азначэнне, якой даў „Брэйнсторм” ўласна Алесь Міхалевіч на сваёй старонцы ў сацыяльнай сетцы Facebook.

Электронны часопіс, дзякуючы сучасным тэхналогіям перадачы выяўлення, можна „пагартаць”, не дакранаючыся да яго пальцам — трэба толькі клікаць мышкай на стрэлкі на старонках выдання і старонкі гэтыя будуць адкрывацца самі. Найбольш цікавым для першага знаёмства з часопісам з'яўляецца разварот 3 і 4 старонак. Там месцяцца выходныя даныя выдання. Згодна ім, гэта грамадска-палітычны часопіс, што быў зарэгістраваны ў жніўні міністэрствам культуры Чэхіі і выдадзены пры падтрымкі Нямецкага фонду Маршала Злучаных Штатаў.

У звароце-прывітанні ад Алеся Міхалевіча на той жа старонцы распавядаецца, што часопіс „будзе прысвечаны будучыні Беларусі”. „Асноўная мэта ўсяго гэтага — разгарнуць паўнавартасную і глыбокую дыскусію. Менавіта таму часопіс называецца „Brainstorm. Мы думаем пра Беларусь” — гэта мазгавы штурм, метад працы, калі выслухоўваюцца ўсе думкі, і калі яны не безнадзейныя, то іх бяруць у працу”, — піша ён.

Там жа адзначаецца, што да супрацоўніцтва запрашаюцца аўтары, якія пішуць па-беларуску, руску, польску, англійску ці нямецку. Усе артыкулы на пакуль безганарарнай аснове будуць друкавацца ў беларускамоўным перакладзе. У першым нумары іх каля дзесятка.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Скарбы Беларусі

### Будслаўскі фэст

Зімой асабліва хочацца цяпла і сонца. Сёлета з першымі маразамі прыгадаўся мне летні традыцыйны фэст у Будславе. Беларусь — шматканфесійная краіна, нават „абрэзаная” з усіх бакоў і страціўшая процьму сваіх каштоўнасцей сваёй этнічнай тэрыторыі, якія апынуліся за мяжой, мае і зараз яшчэ нямала святыняў. Найбольш змрочным было ХХ стагоддзе і асоба „бацькі народаў” — пачварнага Сталіна. Апроч забірання ў беларусаў зямель, камуністычны рэжым знішчыў і мноства рэлігійных асяродкаў і храмаў. Была такая спроба і ў Будславе — цікавым мястэчку на Мядзельшчыне, што ў сучаснай Мінскай вобласці. Гістарычна гэта Ашмянскі павет Віленшчыны. У час Другой сусветнай вайны лінія фронту тройчы праходзіла праз Будслаў, але мясцовы храм і цудатворная ікона ацалелі. У 1941 годзе, 1 ліпеня, пасля наступлення немцаў на ваенным фронце саветы перад сваім адыходам хацелі ўзарваць бернардынскі касцёл, але вернікі сталі бараніць святыню і ўрэшце ўратавалі. У 1992 годзе 2 ліпеня была закладзена традыцыя штогадовага паломніцкага фэсту.

Можна сказаць, што Будслаў — гэта сапраўдная сталіца беларускамоўнага каталіцтва. Можна сказаць, што Будслаў — гэта беларуская Чанстахова. Раз у год сюды імкнуцца пілігрымы з усёй краіны і нават з-за мяжы. Уражанне ад колькасці людзей незвычайнае. Цягам амаль двух дзён адбываюцца набажэнствы ў розных абрадах, выконваюцца разнастайныя рэлігійныя спевы, прадаюцца адметныя сувеніры. Кубак з адпаведнай выявай адзін з самых любімых сярод майго хатняга посуду. Але найбольш яскравыя ўспаміны застаюцца ад начной імшы, калі тысячы людзей са знічкамі стаяць наўкола касцёла і спяваюць — спяваюць пабеларуску і што важна, амаль усе прысутныя. Бадай, нідзе ў іншым месцы Беларусі немагчыма пачуць такога і зафіксаваць падобны колькасны ўздзел.

Будслаўскі бернардынскі касцёл — гэта велічнае архітэктурнае збудаванне, якое не мела аналагаў на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай. Гісторыя ўсёй мясціны пачынаецца з пачатку XVI стагоддзя, калі князь Казімір Ягелончык. Менавіта ён даў тут землі віленскім манахам-бернардынцам. Бернардынцы любілі размяшчаць свае асяродкі ў далінах і невыпадкова выбралі мясцовасць непадалёк рэчкі Сэрвач. Тады ж быў пастаўлены першы будан, уласна ад якога і пайшла назва паселішча. Паводле падання спярша мястэчка мела назву Слаўная Буда. У 1588 годзе (якраз год выдання трэцяга Статута ВКЛ) тут здарыўся цуд. Пасля раннішняй малітвы людзям у небе з'явілася дзівоснае свята з воблака і Дзева Марыя з дзіцяткам на руках у атачэнні анёлаў. Прысутныя пачулі голас, які абяцаў заступніцтва Маці Божай. Пасля гэтага пачаў будавацца мураваны храм, дзе змешчана цудатворная ікона, якую прывёз сюды з Рыма ваявода Ян Пац. Многа пазней пры кляштары была адчынена музычная школа. У 1767 годзе ў мястэчку заклалі першы камень новай мураванай базілікі. Праз стагоддзі тут захоўваўся цудатворны абраз, які ў наш час быў караваны.

А яшчэ Будслаў даў Беларусі шэраг слаўных гістарычных імён. Тут нарадзіліся легендарная акторка Паўліна Мядзёлка, Вінцэнт Жук-Грышкевіч, дзеяч эміграцыі, старшыня Рады БНР. З нашых сучаснікаў варта згадаць паэта Славаміра Адамовіча, які вядомы сваім талентам і нонканфармізмам. Мясцовыя людзі праўдападобна дагэтуль захоўваюць тыя рысы, якія мы звыклі называць заходнебеларускім менталітэтам. Так што, нягледзячы на канфесійную прыналежнасць, раю ўсім патрыётам Бацькаўшчыны наведаць пры магчымасці Будслаўскі фэст.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

10 ☞ працяг

цам левай рукі трэба было падтрымліваць яго сківаць, апошнімі чатырма — трымаць маску. Правай рукой я падавала наркоз, перажываючы, каб не перадазаваць, а з другога боку, каб пацыент не прабудзіўся перад завяршэннем аперацыі. У час налётаў усіх пацыентаў трэба было перанесці ў склеп, які знаходзіўся ў суседнім будынку. Напружанне было настолькі вялікае, што, здавалася, рукі адрываюцца. Сённяшняму пакаленню напэўна цяжка сабе ўявіць, з якой ахвярнасцю і бескарыснасцю мы ставіліся да сваёй працы. У 1945 годзе я атрымала 100 злотых месячнай зарплаты пры цане 150-170 злотых за кілаграм сала.

Нейкі час працаваў з намі доктар Рэцька, які вярнуўся з гітлераўскага канцлагера. Гэта быў чалавек асаблівага сэрца і вялікай дабрыні. Прыехаў сюды таксама доктар Генрык Развадоўскі. Працоўныя ўмовы надалей заставаліся складанымі — недахоп прылад і персаналу, дзяжурствы кожныя другія суткі.

* * *

Недзе ў 1950 годзе на працу з'язджае доктар Францішак Пяткевіч са сваім уласным персаналам. Сястра яго жонкі займае пасаду рэгістратаркі, прывозіць ён таксама сваю інтэндантку. Доктар Пяткевіч, званы тут „глухім доктарам", вядомы як прапагандыст беларускага слова, не вельмі добра запісаўся ў памяці спадарыні Генавефы. Наконт яго медыцынскай практыкі спадарыні Генавефе запомніліся не выклікаючыя яе даверу спосабы лячэння. Для прыкладу, у выпадку высокай тэмпературы дарослым і дзецям раіў выпіваць немалыя дозы бензіну. Пры запаленні суставаў прыказваў падаваць да дваццаці таблетак аспірыну ў суткі.

— Складаныя ўмовы працы працягваліся. Нават лякарствы прыходзілася нам самім вырабляць, — расказвае славутая санітарка. — З сушанай наперстаўкі, якая расла ў агародзе доктара Пяткевіча, мы выраблялі парашок. Трэба было рыхтаваць таксама лякарствы на ўколы, у тым ліку і стрыхнін.

Пасля кругласутачнага дзяжурства ў шпіталі трэба было яшчэ аб'ехаць цэлую падлеглую тэрыторыю ў рамках, для прыкладу, папулярызацыі гігіены, будучай тады на вельмі нізкім узроўні, ці масавай вакцынацыі супраць тыфу. Тады мы прышчэплівалі ўсіх ва ўзросце з пяці да шасцідзесяці пяці гадоў. Помню падарожжа ў вясковыя школы, дзе найчасцей праводзілі мы вакцынацыю. Марозная зіма, на санях, без цёплай вопраткі, часта цэлыя суткі без ежы, а ў школе нават кубка гарбаты ніхто не запрапануе. А бывала, што мы заставаліся там на начлег, пазбаўляючы сваіх уласных, маленькіх дзяцей мацярынскай апекі.

У тамтых часах хуткая дапамога яшчэ не існавала, таму калі доктар ці акушэрка заставаліся ў водпуску нам, санітаркам, прыходзілася выконваць іх ролю.

У крынскім шпіталі працаваў таксама доктар Збігнеў Нізінскі са сваёй брыгадай: фельчарам Рышардам Стэлігам і інтэндантам, прозвішча якога не магу ўжо ўспомніць. За безупыннае п'янства і неэтычныя паводзіны хутка пазбавілі яго права выконваць лекарскую практыку ва ўсім Беластоцкім ваяводстве.

У 1955-1960 гадах працаваў тут доктар Мечыслаў Кузьма з жонкай, стаматолагам Тэрэсай Кузьма. Вельмі добра ўпісаліся яны ў карты гісторыі нашай лячэбніцы. З Крынак адправілі яго ў Сідру, дзе загінуў, штурхнуты на дарозе п'яным вадзіцелем. Ведаю, што за ягоную сумленную, сур'ёзную працу і грамадскую дзейнасць адной з сідранскіх вуліц прысвоілі яго імя.

* * *

Апошні этап медыцынскай паслугі спадарыні Генавефы прайшоў у крынскай школе, дзе абавязкі гігіеністкі выконвала з 1959 па 1990 год.

Спадарыня Генавефа са смуткам прызнаецца, што большасць яе супрацоўнікаў прыкрываюць тоўстыя слаі магільнай зямлі. Сярод жывых знаходзіцца яшчэ санітарка, 89-гадовая Ганарата Хоронжа. Па сёння ніхто не падзякаваў ім за іх звышчалавечую працу і ахвярнасць. „Мабыць, — кажа яна, — Бог пра нас помніць і ахапляе сваімі крыламі, трымаючы столькі гадоў на гэтым свеце".

3 ☞ працяг

дадзеныя і якіх фірм маюць яны датычыць — М. Х.). Не хапае распрацовак магчымасцей эканамічнай экспансіі на Усход (гэта няпраўда — М. Х.).

І зноў Цэзары Цеслюкоўскага:

— Мусім падтрымліваць беларускую нацыянальную культуру, не савецкую. Гэта памылковая думка, што нацыянальная культура не прыносіць прыбытку. Гэта патрэбны і неадкладны для прывядзення ў рух інструмент. Поўным непаразуменнем з'яўляецца стаўлянне перашкод паміж эканомікай і культурай.

А таксама Анджэя Ляхоўскага, дырэктара Падляшскага музея:

— Маем з Усходам супольную прастору для выкарыстання: культуру, спадчыну. У нас адзін культурны код з аднаго і другога боку мяжы. Мастакі, палітыкі, гаспадарчыя дзеячы павінны выкарыстаць гэтую супольнасць спадчыны.

Адзіны (!) з прысутных у зале прадстаўнік самаўрада ў глыбінцы — Уладзімір Пятрочук заклікаў, каб дзейнасць еўрарэгіёнаў на тэрыторыі Падляшша («Нёман», «Буг», «Белавежская пушча») прымаць пад увагу пры апрацоўцы стратэгіі і дакумента аб усходнім маштабе самаўрадавай дыпламатыі. Падобна як і іншыя прамоўцы, наракаў на візавую сістэму, асабліва на сістэму электроннай рэгістрацыі ў польскіх консульскіх установах у Беларусі.

Анатоль Вап, дырэктар дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны падляшскай Маршалкоўскай управы:

— Аб Усходзе не можам думаць дакладна галінова, толькі аб эканоміцы, толькі аб турызме, толькі аб культуры. Не хапае тут аўдыту, што мы ўсе робім, каб пайсці далей.

Яўген Вапа, старшыня Беларускага саюза ў РП:

— Маем урадавую, самаўрадавую дыпламатыю і гэтыя дзве дыпламатыі павінны працаваць дзеля трэцяй — грамадзянскай дыпламатыі, чыста людскай. Гаворка пра тое, каб даць шанцы самастойным ініцыятывам і сустрэчам людзей. Прытым, самаўрадавая дыпламатыя не звальняе з маральных паводзін у адносінах да падласцей, якія адбываюцца ў Беларусі.

Заклікаў да супольнага выступлення ваяводы, падляшскага маршалка і прэзідэнта Беластока ў справе патрабаванняў стаяўшых перад асобамі запрашаючымі беларусаў у Польшчу, а звязаных з выяўленнем дэталёвых дадзеных (ахопленых сакрэтнасцю персанальных дадзеных) наконт умоў жыцця асоб запрашаючых і патрабаваннем заробкаў у адпаведнай суме, перакрочваючай няраз напрыклад суму пенсій: «Гэта не ёсць патрабаваннем ЕС».

Звярнуў таксама ўвагу:

— Будучая ваяводская стратэгія патрабуе дакладнасці. Трэба памятаць, што ў Беларусі няма самаўрадаў, толькі сістэма ўмацаваная Аляксандрам Лукашэнкам. Трэба прымяняць у гэтым дакуменце вызначэнні адпаведныя гэтай сістэме. Няма там, напрыклад, губернатара, толькі старшыня аблвыканкама.

Калі ў час прэс-канферэнцыі мы спыталіся, як мела б выглядаць супрацоўніцтва паміж польскімі і беларускімі няўрадавымі арганізацыямі ў рамках падляшскай стратэгіі і тае ўсходняй спецыялізацыі, пачулі ад Гжэгажа Схетыны адказ, на жаль, не на тэму:

— Трэба паказваць, што польская і еўрасаюзная палітыка гэта штосьці іншае, чым рэгіянальнае супрацоўніцтва. Гэта, вядома, будзе нялёгкім. Гэта мусіць быць, аднак, апісанае і стаць козырам памежнай самаўрадавай улады.

Спыталіся мы таксама, якую ролю ва ўсходнім маштабе рэгіянальнай стратэгіі мае выконваць горад Беласток, які дасюль не выказвае зацікаўлення адкрыццём на Усход, у тым ліку на Беларусь, і чаму гэта так адбываецца. Дэпутат Тышкевіч адказаў:

— Цяжка мне адказаць. Веру ў тое, што горад, які мае ўпісаны ў лозунг і лагатып «Узыходзячы Беласток», значыць, той усходні кампанент мае ўведзены ў свой імідж, уключыцца ў гэты праект, значыць, у рэгіянальную стратэгію. Сталіца рэгіёна ў гэтай канцэпцыі павінна адыгрываць ключавую ролю.

Канчаючы семінар, Дарыюш Багускі пры нагодзе прадбачыў, што ў будучым годзе мае завяршыцца шматгадовая задума, каб у цэнтры Беластока стаў помнік Тадэвушу Касцюшку.

# Адгаданка

## Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

**1.** лічыльная дошка ў старажытных грэкаў і рымлян = 1 _ 2 _ 5 _ 12 _;

**2.** даўнейшы паляўнічы-прафесіянал = 20 _ 21 _ 24 _ 22 _;

**3.** клоўн, блазен = 11 _ 10 _ 3 _ 4 _;

**4.** горад у Расіі (57°58'N, 52°10'E) = 15 _ 14 _ 13 _;

**5.** Павел, даследчык беларускай этнаграфіі (1826-1900) = 16 _ 17 _ 18 _ 19 _;

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| | | | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| | 19 | 20 | | 21 | 22 | 23 | 24 |

**6.** горад на поўдні Люксембурга = 23 _ 9 _;

**7.** уліваецца з Якуціі ў мора Лапцевых = 8 __ 6 __ 7 __.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 46 нумара**

Абама, Каліноўскі, Амерыка, Літва, гай, Алі, любоў, грып, адзін, Мальта, шыла, хілізм, БССР, заяц, ібіс, Уса, Алёхін, паілка.

Рашэнне: **Калі б малітвы памагалі, людзі наймалі б іншых каб за іх маліліся**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 12 000 egz.

# 2013 год

**(22.03. – 20.04.)** Адкрыешся на новыя магчымасці, адкрыеш новыя аспекты жыцця і прымеш самыя адпаведныя рашэнні. Хопіць новых выклікаў і сітуацый, якія стануць вехамі на тваёй дарозе жыцця. Узмоцніцца твая пазіцыя ў прафесіі. Адкрыеш радасць давання. Найлепшая касмічная аўра ў маі і чэрвені.

**(21.04. – 21.05.)** Зробіш выбар з усіх магчымых дарог. Вызначыш новы спісак прыярытэтаў у розных галінах жыцця. Услухайся ў свае ўнутраныя патрэбы — яны пакажуць табе напрамак змен. Пакінь вядомыя шляхі, адкінь памылковыя ўяўленні. Два гады Сатурн уплывае на тваю кар'еру: будуць шчаслівыя нагоды, але каб утрымацца на хвалі, трэба будзе старацца.

**(22.05. – 22.06.)** Да канца чэрвеня — найлепшы час. Сягай па большае, усё ўдасца. Пасля засяродзься на ўмацаванні сваіх дасягненняў. Адкрыецца перад табой брама да паўнейшага, каштоўнейшага жыцця. Дай сабе шанц на рэалізацыю сваіх сапраўдных мараў, кіруйся да таго, што дае табе свабоду і шчасце. Кепскія рысы перакуй на перавагі.

**(23.06. – 23.07.)** Цудоўны год! З канцом чэрвеня будзеш нумарам 1 сярод шчаслівуцаў! Пара на найлепшае! Зоркі павядуць да поспехаў і памогуць пакінуць тое, што павінна адысці ў мінулае. Прыліў пазітыўнай энергіі, новых задум. Цешся і драбязою. Прыцягнуць цябе да цікавага мепрапрыемства. Твае планы будуць бяспечныя і рэальныя.

**(24.07. – 23.08.)** Спавальні тэмп, больш часу дай для одуму. Правер свае мэты. Падумай пра самае важнае. Зоркі запросяць цябе ў глыбіню сябе самога, задбаюць пра кампанію, памогуць удакладніць планы і пакажуць добрую дарогу. З групы сяброў вылучыш самых блізкіх. Са Скарпіёнам складзеш і дапрацуеш адзін цікавы план.

**(24.08. – 23.09.)** Стабільны і бяспечны час, які спрыяе рэалізацыі шматлікіх планаў, асабліва патрабуючых паслядоўнасці і ўмеласці планавання. Будзеш мець шчасце, глядзі ў будучыню без боязі. Адкрыеш вочы на новыя галіны ведаў, падымеш пачуццё ўласнай каштоўнасці. Пазнай уласны патэнцыял, не бяжы без агляду, а зрабі крок у адпаведным напрамку.

**(24.09. – 23.10.)** Адпачнеш ад лішку абавязкаў, ды матэрыяльныя справы будуць цябе надалей турбаваць. Да чэрвеня карыстайся шанцамі на падарожжы, пашыраннем гарызонтаў. Каханне пастукае ў дзверы. Кінь халодныя калькуляцыі, слухай інтуіцыю. Лёс для цябе ласкавы, асабліва ў першай палове года. Маеш шанц шырока раскінуць крылы.

**(24.10. – 22.11.)** Важны год. Зоркі памогуць табе ў жыццёвых парадках. Найважнейшае апынецца на пачатку спіска. Тое, што страціла сэнс і мэты, апынецца па-за плынню падзей. Паявяцца новыя кірункі і магчымасці здзяйснення. Плыві асцярожна на хвалі пачуцця. Пастаў на здабыванне ведаў. Дбай аб здароўе. Ты моцны і разумны, дацані свой патэнцыял.

**(23.11. – 22.12.)** Маеш памяркоўную падтрымку зорак, ды твой прыродны аптымізм дазволіць на дасягненне поспехаў. Думай не толькі пра цяперашнюю хвіліну, але і ў якой ролі бачыш сябе на далейшым этапе жыцця. Будзеш мець энергію для рэалізацыі намераў. Аптымізм і вера падмацуюць цябе і памогуць пераадолець перашкоды.

**(23.12. – 20.01.)** Будзеш мець падставы для задавальнення і радасці. Асабліва ў другой палове года рэалізацыя тваіх планаў набярэ імпэту. Зоркі папхнуць цябе да рэалізацыі новых намераў, паставяць на тваёй дарозе кагосьці важнага, мабыць табе наканаванага. Будзеш мець сілу і адвагу ісці за сваёй марай.

**(21.01. – 19.02.)** Важны час, і хаця не ўсё пойдзе гладка, чакае цябе сапраўдны поспех. Твае козыры — адкрытая галава і гнуткаць; кончыш гэты год са шчытом! Мноства сюрпрызаў; выбірай, каб больш здабыць, а не страціць. Аддзялі капітал на будучыню ад таго, што не дае шанцаў развіцця.

**(20.02. – 21.03.)** Цудоўны год напоўнены шанцамі на пазітыўныя змены ў жыцці. Асабліва дынамічная другая палова. Шанцы асабістага развіцця і падарожжаў. На тваёй дарозе стане хтосьці, ад каго будзеш мець шчасце. У першай палове года карыстайся перш за ўсё здаровым розумам.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Падляшскія stories уразілі Нью-Йорк

Размова з **Алінай Ваўранюк** і **Барбарай Пякарскай**, якія разам з дзесяццю ліцэістамі і гімназістамі ў жніўні 2012 года пабывалі ў Нью-Йорку на турнэ са спектаклем „**Падляшскія хронікі**”.




**Ганна Кандрацюк:** *— А ці хто з вашай групы ўпершыню ляцеў на самалёце?*

**Аліна Ваўранюк:** — Здаецца, две асобы, я і Дарка Дажынка...

**ГК:** *— Значыць, сам палёт быў звычайным падарожжам. Ці сустракалі вас на лётнішчы ў Нью- Йорку?*

**Барбара Пякарская:** — Сапраўды, гэта было вельмі прыемна. На лётнішчы, пакуль прайшлі ўсю працэдуру праверкі пашпартоў і віз, мы застраглі на дзве гадзіны. І пасля, калі выйшлі, нас прывітала кампанія з вялізным бел-чырвона-белым сцягам. Разам з Алай Орса-Рамана, асобай, якая арганізавала нашае турнэ, былі таксама сябры Беларуска-Амерыканскага Задзіночання.

**ГК:** *— У Нью-Йорк вы паехалі са спектаклем „Падляшскія хронікі”. Як склалася вашая праграма, шмат разоў выступалі?*

**АВ:** — У першы ўік-энд мы паехалі ў Саўт-Рывер, дзе адбываўся беларускі пікнік і паказалі там „Цацачную краму”. Вельмі мы хваляваліся. Там з’ехала многа маладых людзей, былі эмігранты з Беларусі, таксама з Беласточчыны. Было пакаленне, якое нарадзілася ў Амерыцы, і людзі, якія гаварылі толькі па-англійску. Там адбывалася нешта як фэст, забавы з латарэямі, сустрэчы, таму мы рашылі выступіць з лягчэйшым рэпертуарам. Пасля да мікрафонаў спявалі вядомыя беларускія песні. Публіка цёпла ўспрыняла нашы выступленні. І нам было лягчэй, бо скінулі з сябе трошкі хвалявання...

**ГК:** *— Мелі вы з сабой касцюмы і рэквізіты да „Цацачнай крамы”?*

**АВ:** — З гэтым не было праблемы. Мы дамовіліся, што кожны з нас бярэ пэўныя рэчы, падзялілі іх і кожны меў іх у сваім багажы. Апрача касцюмаў мы мелі кніжкі, цішэрты, дыскі, сумкі, календары, якія зрабілі спецыяльна пад паездку...

З „Хронікамі” выступалі два разы ў прыцаркоўных святліцах у Гайленд-Парку і ў Нью-Йорку на Брукліне. Усе перажывалі, а ўжо найбольш Алюньця (Ала Орса-Рамана — Г. К.). Яна ўсё арганізавала і адчувала адказнасць за тое, як мы выступім, як людзі ўспрымуць нашыя гісторыі на дыялекце. Людзей з’ехалася многа. Было шмат моладзі, дзяцей, дарослых. Некаторыя прыязджалі на ўсе нашыя спектаклі. Вядома, мы хваляваліся. Мы выступалі пры іншым святле і я баялася ці зможам аддаць спецыфічную атмасферу гэтых гісторый. У час першага выступлення я пабачыла, што людзі смяюцца ў тых самых месцах, што і ў нас. Гэта супакоіла. А на канец ужо ўсе разам спявалі...

**БП:** — Мы не ведалі як беларусы, якія ўсё жыццё змагаюцца за літаратурную мову, успрымуць наш дыялект. І калі ў час выступленняў я глядзела на рэакцыю амерыканцаў, то зразумела, што няма між намі ніякай розніцы. Частка людзей перажывала так моцна, што проста не верылася. Раз смяяліся, іншы раз плакалі. Мабыць таму, што дзесяткі гадоў яны не гаварылі пра такія справы. Відаць, нешта кранула душу, наклікала ўспаміны. Тое, што мы расказвалі гісторыі на дыялектах нашых вёсак, вельмі спадабалася. Не было ніякіх праблем са зразуменнем зместу.

**ГК:** *— Ці нехта з публікі падыходзхіў, хацеў з вамі пагаварыць?*

**БП:** — Раз была вельмі цікавая сітуацыя. Пасля выступлення падышла жанчына і кажа, што яна ведае сям’ю, пра якую гаварыла Оля. Што яны тут жывуць. Аказалася, што гэта была выпадковасць, проста два амаль аднолькавыя беларускія лёсы.



www.ab-ba.com.pl

**АВ:** — Перад выступленнем мы пабывалі ў царкве і мне вельмі спадабаўся хор. Багаслужба была адначасова на беларускай і ўкраінскай мовах, бо бацюшка быў з Украіны. У гэты дзень асвячалі ікону, якую падарыла Валянціна Якімовіч. У Еўфрасіннеўскай царкве ў Саўт-Рывеy ёсць ікона, напісаная айцом Кастусём Бандаруком. Гэта было вельмі прыемнае адкрыццё. І тое, што рэгент прыгожага хору быў родам з нашых Чыжоў. Сапяжынскі. Ён якраз адзначаў свой дзень нараджэння.

**ГК:** *— „Падляшскія хронікі” пахваліў сам Зянон Пазьняк?*

**АВ:** — У Нью-Йорку мы выступалі яшчэ з рэпертуарам пра Ларысу Геніюш. Сапраўды, Пазьняку спадабаліся „Хронікі”. Ён пахваліў нашых маладых, што збіраюць гісторыі і што гавораць і спяваюць на мове продкаў.

**БП:** — Пазьняк пахваліў нас за сапраўднасць, прастату пераказу і сцэнічную сціпласць. Ён сказаў, што наш спектакль не саступае пастаноўкам прафесійнага тэатра.

**ГК:** *— Апрача выступленняў у вас была турыстычна-культурніцкая праграма?*

**АВ:** — Першыя дні ў Нью-Йорку мы прысвяцілі знаёмству з горадам і, дзякуючы Алюньцы, мы наведалі легендарныя месцы. Разам з Вячкам Станкевічам мы паплылі на Востраў Свабоды, дзе ўзвышаецца славутая статуя Свабоды. Пабывалі на Лонг-Айлендзе, дзе на зломе XIX і XX стагоддзяў прыплывалі эмігранты. Нашы маладыя былі ашаломлены, калі Вячка Станкевіч расказваў ім гісторыі эмігрантаў. На сцяне музея мы знайшлі шмат прозвішчаў ад нас, з Падляшша. Там таксама бачылі сундукі, клункі, з якімі прыплывалі людзі.

**БП:** — Нам вельмі хацелася, каб пабаўка была адукацыйнай. Часу не было шмат, таму мы вырашылі схадзіць у Музей нацыянальнай гісторыі і ў Метрапалітэн-музей (The Metropolitan Museum of Art). Мне вельмі хацелася, каб мы пабачылі мюзікл на Брадвеі, і, дзякуючы Але Орса-Рамана, мы былі на „Прывідзе оперы” („The Phantom of the Opera Overview”). Уражанне абсалютна цудоўнае. Вельмі важна было пахадзіць вуліцамі, паглядзець на людзей і, што цікава, усюды сустракаліся мы з зычлівай, бескарыснай дапамогай ад чужых людзей.

**АВ:** — Запамяталася сустрэча з Янкам Запруднікам, Надзяй Кудасавай, людзьмі, якія заахвочвалі архівізаваць памяць, усё запісваць, фатаграфаваць. Амерыканскія беларусы запрасілі на адну ноч да сябе нашую моладзь, каб яны пабачылі як жыве амерыканская сям’я. Яны вярнуліся шчаслівымі.

**ГК:** *— Хто фінансаваў вашае двухтыднёвае турнэ?*

**БП:** — Мой муж Міраслаў Пякарскі, Радыё Рацыя і бацькі. Бацькі сфінансавалі кошты, звязаныя з побытам у Амерыцы. Частку фінансавала Ала Орса-Рамана. Мы, між іншым, жылі ў яе хаце, дзякуючы ёй паглядзелі спектакль на Брадвеі.

**ГК:** *— Менавіта, увесь час паяўляецца імя вашага добрага анёла, спадарыні Алы Орса-Рамана.*

**БП:** — Тут спрацавала маё прыватнае сяброўства. Калі мы з Міркам першы раз дваццаць гадоў таму паехалі ў Нью-Йорк, мы жылі ў яе хаце, тады шмат яна нам дапамагла (пасля, у гэтым доме жыло некалькі людзей ад нас). Праз той год, калі мы там жылі, яна была нам вельмі блізкай асобай, паказала горад, пазнаёміла з многімі людзьмі. Я думаю, што тут здарылася нешта такое, што бывае ў сяброўстве — людзі разыходзяцца, але сувязь застаецца. Ала заўсёды цікавілася нашымі справамі, калі мы засноўвалі садок, калі арганізавалі школу. Я таксама пісала пра нашыя спробы, пра тое, што робім. Паездка са спектаклем атрымалася пры нагодзе нейкай размовы. Спачатку гэта здавалася нерэальным, бо кошты вельмі вялікія. Але, як аказалася, няма рэчаў немагчымых.



**ГК:** *— Ведаю, што вы падрыхтавалі адмысловыя гасцінцы?*

**БП:** — Для Алюньці мы завезлі абрус вышываны ўручную Марыяй Андраюк з Бельска. Падрыхтавалі календары з „Хронікамі”, нашыя кніжкі, многа сувеніраў ад аб’яднання АБ-БА. І вельмі добра, што падрыхтаваліся, маглі неяк аддзячыць за ўвагу і зычлівасць людзей. Мы ўсе, дванаццаць асоб, на канец пабыўкі былі абдараваныя. Кожны з нас атрымаў сярэбраны Еўфрасіннеўскі крыж, які спецыяльна для нас зрабіў ювелір Валеры Дворнік. Гэты жэст настолькі крануў, што я паплакалася як бабёр.

**ГК:** *— Ці пабыўка ў сталіцы свету памяняла нашых маладых?*

**БП:** — Я думаю, што гэтага так не адчуеш адразу. Напэўна такая паездка не застанецца без рэха. Яны былі пад уражаннем ветлівасці беларусаў, пабачылі месцы і свет. Я думаю, што кожны з іх нешта сваё прывёз з гэтай Амерыкі. Тут было штось незвычайнае і думаю, што два разы такія гісторыі не здараюцца.

**АВ:** — Мне цяпер здаецца, што гэта быў сон. Манхатан, тыя будынкі, натоўп людзей. Той цёплы прыём з боку амерыканскіх беларусаў. Алюньця і спадар Вячка прысвячалі нам шмат часу, прыдумвалі розныя квізы пра гісторыю Нью-Йорка, пра гісторыю эміграцыі. Гэта было настолькі цудоўнае, што проста не верыцца...

ISSN 0546-1960